**Сяргей Токць**
(Гародня)

# Жыццё селяніна ў прыгонніцкую эпоху: эвалюцыя феадальных павіннасцей на матэрыялах лакальнага даследавання мікрарэгіёна Скідзельшчына

Прыкладна ў сярэдзіне XVI ст. у цэлым завяршаецца працэс запрыгоньвання беларускага сялянства, якое трапляе ў асабістую прававую залежнасць ад сваіх паноў-землеўласнікаў[1]. Адначасова ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі дынамічна развіваецца фальваРачна-паншчынная сістэма гаспадарання. Фальварак становіцца асноўнай крыніцай прыбыткаў для мясцовага пануючага класа. Гэтая сістэма, заснаваная на выкарыстанні прымусовай працы прыгонных сялян, праіснавала на беларускіх землях да рэформы 1861 г., часта прымаючы сапраўды жудасныя формы прыгнёту падданых іх уладальнікамі. Які ўплыў яна аказала на гістарычны лёс беларускага народа? Ужо ў XIX ст. аўтарамі заходнерускай нацыянальна-палітычнай арыентацыі ствараецца міф эпохі паншчыны, паводле якога забіты беларускі селянін выступае няшчаснай ахвярай жорсткага ўціску з боку польска-літоўскай шляхты. Расійскае ж самаўладдзе заходнеруская публіцыстыка паказвала ў абліччы збавіцеля беларускага народа ад прыгоннага ярма. Нават вядомы этнограф Адам Багдановіч (бацька паэта Максіма Багдановіча), якога нельга западозрыць у асаблівых сімпатыях да царскай улады, пісаў у прадмове да свайго даследавання: „Белоруссія (...) до такой степени была закрепощена помещикам, обязанности в отношении к этим последним были так отяготительны, что на выполнение их расходовались все силы народа, что у него не оставалось ни времени на размышление и обдумывание, ни средств на обучение, а без этого немыслимо умственное развитие. (...) Как при таких условиях, когда крестьянин был отягощен безысходным трудом, когда его личность подавлялась, его человеческое достоинство подвергалось поруганию, как было тут развиться критическому мышлению, духу изследования (...)”[2]. Стваральнік беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі сцвярджаў у сваёй „Гісторыі Беларусі”: „Наогул, на Беларусі прыгоннае права насіла нейкі цяжкі харак-

[1] М. Ф. Спиридонов, *Закрепощение крестьянства Беларуси (XV-XVI вв.)*, Минск 1993, с. 164.
[2] А. Е. Богданович, *Пережитки древняго миросозерцания у белорусов*, Гродна 1895, с. 6, 8.

тар, удушлівы, адчуваецца поўнае адчужэнне памешчыкаў ад інтарэсаў вёскі, ад усяго яе жыцця. Розніца рэлігіі і культуры аддаляла памешчыкаў ад прыгоннай вёскі, і беларускі памешчык хутчэй нагадвае сабой паўднёва-амерыканскага плантатара”[3].

Гэты міф паншчыны трывала ўвайшоў у гістарычную памяць беларусаў, тым болей, што ён доўгі час захоўваўся і ў вуснай памяці асобных сялянскіх сем’яў і вясковых супольнасцей. Але яго з’яўленне і трываласць не варта спісваць выключна на заходнерускіх аўтараў. Вядомы польскі палітычны дзеяч сялянскага паходжання Якуб Бойка, які пазней нават стаў віцэ-маршалкам польскага сейма, пісаў у 1904 г.: „W nas pokutuje dusza bardzo starej brzydkiej pani, która zmarła w roku pańskim 1848 (Я. Бойка паходзіў з часткі Польшчы, якая, паводле падзелаў, належала да імперыі Габсбургаў — С. Т.), a zwała się pańszczyzną. Pani ta trzymała w niewoli strasznej przeszło 400 lat całe nasze chamskie plemię i zabiła w chłopie człowieka, a zrobiła po prostu grat, maszynę, z którą to można było zrobić, co ta pani chciała. (...) Ta groza pańszczyzny tak weszła w krew ludu, że się to po dziś dzień odbija na nim w rażący sposób, a to nie tylko na prostym ludzie, ale nawet na tych jego synach, którzy zajęli dzięki szkołom i wysokie stanowiska nawet. Duch pańszczyźniany, duch niewolniczy tkwi w nas wszystkich”[4]. Больш таго, сучасны сацыёлаг польскай вёскі Ізабела Букраба-Рыльска лічыць, што некаторыя рысы, характэрныя для менталітэту сённяшніх палякаў, таксама можна патлумачыць спадчынай паншчыны: „W rzeczywistości wiele cech przypisywanych sylwetce homo sovieticus (takich jak chętnie podkreślana przez socjologów „wyuczona bezradność” czy „roszczeniowość”) należałoby wyprowadzać z dużo odleglejszej przeszłości i wiązać z realiami funkcjonowania wsi pańszczyźnianej. Obecne trudności z wynegocjowaniem obszaru „dobra wspólnego”, niedostatki w sferze postaw obywatelskich, brak zaufania społecznego — to wszystko dałoby się z powodzeniem tłumaczyć w kategoriach ciążenia struktur długiego trwania”[5].

Грунтоўныя даследаванні гісторыі беларускага сялянства ў часы паншчыны былі праведзеныя яшчэ ў часы Расійскай імперыі такімі выдатнымі гісторыкамі, як М. Доўнар-Запольскі і Уладзімір Пічэта[6]. У беларускай савецкай гістарыяграфіі гісторыя сялянства стала адным з прыярытэтных накірункаў. Было выдадзена шмат манаграфічных

[3] М. В. Доўнар-Запольскі, *Гісторыя Беларусі*, Мінск 1994, с. 340.

[4] Цытую па: I. Bukraba-Rylska, *Socjologia wsi polskiej*, Warszawa 2008, s. 126.

[5] Там жа, с. 128.

[6] М. В. Довнар-Запольский, *Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах*, т. 1, Киев 1901; ён жа, *Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке*, Киев 1905; В. Пичета, *Аграрная реформа Сигизмунда Августа в литовско-русском государстве*, ч. 1, Москва 1917.

прац, у якіх разглядаліся розныя праблемы гісторыі беларускай вёскі перыяду феадалізму — пытанні класавай барацьбы, сялянскіх павіннасцей, землеўладання і землекарыстання[7]. Гэтыя працы адпавядалі прынцыпам марксісцкай метадалогіі (пакольki галоўная ўвага надавалася эканамічным чыннікам) і ідэалогіі (аўтары адкрыта сімпатызавалі прыгнечаным сялянам і асуджалі феадалаў-эксплуататараў). Нельга тут абысці ўвагай таксама вельмі грунтоўныя манаграфіі вядомага львоўскага гісторыка Дзмітрыя Пахілевіча[8] і познаньскага аўтара Яна Юркевіча[9]. Але ў 1990-ыя гады цікавасць айчынных гісторыкаў да аграрнай праблематыкі імкліва пайшла на спад. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пагартаць гістарычныя перыядычныя выданні за апошнія дваццаць гадоў. Некаторыя працы выдаваліся ўжо, як бы па інерцыі. Галоўным прыкладам гэтага, на нашу думку, з'яўляюцца два тамы *Гісторыі сялянства Беларусі*[10] (запланаваны на пачатку трэці том гэтага выдання так і не быў напісаны), якія сталі своеасаблівым падсумаваннем бээсэсэраўскай школы гістарыяграфіі беларускага сялянства.

На пачатку XXI ст. былі выдадзеныя некалькі манаграфічных даследаванняў, прысвечаных гісторыі беларускай вёскі ў паншчынную эпоху[11]. Аўтары гэтых прац — Уладзімір Сосна, Валянцін Голубеў, Ірына

[7] К. І. Кернажыцкі, *Гаспадарка староставаў на Беларусі і эканамічны стан іх насельніцтва ў другой палове XVIII сталецьця*, [у:] *Запіскі аддзелу гуманітарных навук, Працы клясы гісторыі*, кн. 3, т. 2, Менск 1928, с. 1-94; Н. Н. Улащик, *Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии*, Москва 1965; В. В. Чепко, *Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в.*, Минск 1966; яна ж, *Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в.*, Минск 1972; В. И.Мелешко, *Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII — XVIII в.*, Минск 1982; П. А. Лойка, *Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI — XVIII ст.*, Мінск 1991; В. Ф. Голубеў, *Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI-XVIII стст.*, Мінск 1992.

[8] Д. Л. Похилевич, *Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв.*, Львов 1957; ён жа, *Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века*, Вильнюс 1966.

[9] J. Jurkiewicz, *Powinności włościan w dobrach prywatnych w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI-XVII wieku*, Poznań 1991.

[10] *Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён*, т. 1: *Са старажытных часоў да рэформы 1861 г.*, Мінск 1997; т. 2: *Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г.*, Мінск 2002.

[11] У. А. Сосна, *Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.*, Мінск 2000; І. Ф. Кітурка, *Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII — XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця*, Гродна 2003; С. М. Токць, *Беларуская вёска на мяжы эпох: змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (на матэрыялах Гарадзеншчыны XIX — першай трэці XX ст.)*, Гродна 2002; ён жа, *Беларуская вёска ў эпоху зменаў*, Мінск 2007; В. Ф. Голубеў, *Сельская абшчына ў Беларусі XVI-XVIII стст.*, Мінск 2008.

Кітурка, Сяргей Токць — спрабавалі знайсці новыя даследніцкія праблемы і падыходы, даць новыя ацэнкі ўжо вядомым фактам і новыя адказы на традыцыйныя пытанні. Асабліва варта, на маю думку, адзначыць выдадзеную ў 2005 г. манаграфію мінскага гісторыка Вячаслава Насевіча[12], якая стала першай спробай выкарыстання мікрагістарычнага падыходу ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі.

Істотным недахопам беларускай гістарыяграфіі, на маю думку, з'яўляецца адсутнасць спробы пабудовы арыгінальных тэарэтычных канцэпцый, прысвечаных праблемам гісторыі беларускай вёскі і сялянства і прызваных гэтыя праблемы вытлумачыць. Такіх, якія, напрыклад, былі створаныя ў польскай гістарыяграфіі, дзе паўстала некалькі тэарэтычных мадэляў узнікнення і развіцця фальварачна-паншчыннай гаспадаркі і яе ўплыву на польскую гісторыю (можна вылучыць мадэлі Яна Рутковскага, Вітальда Кулі, Ежы Тапольскага)[13].

Спецыфіку развіцця беларускай вёскі ў параўнанні з заходнееўрапейскай спрабуе вытлумачыць у сваёй працы Вячаслаў Насевіч. Прыгонніцкую фальварачна-паншчынную сістэму ён улучае ў традыцыйныя структуры беларускай вёскі, а зямельную рэформу „валочную памеру", якая ўмацавала гэтую сістэму, называе першай спробай „вестэрнізацыі". На думку Насевіча, беларуская вёска супраціўлялася двум імпульсам, якія прыходзілі з Захаду — спірытуалізацыі светапогляду і мадэрнізацыі гаспадаркі. Расплатай за гэты супраціў і стаўся разрыў ва ўзроўні матэрыяльнага дабрабыту з заходнееўрапейскімі краінамі[14].

На маю думку, адна з ключавых праблем у вывучэнні гісторыі беларускай вёскі — гэта праблема сялянскіх павіннасцей, праз прызму якой можна высвятліць і характар адносін паміж прыгонным сялянствам і феадальнай уладай. Ці былі яны сапраўды настолькі вялікія, што прывялі да ўсебаковай дэградацыі беларускага сялянства, як гэта сцвярджалі, напрыклад, заходнерускія публіцысты? Мне не ўдалося знайсці дастаткова яснага і выразнага адказу на гэтае пытанне ў існуючай на сённяшні дзень гістарыяграфіі беларускай вёскі. Думаю, што і большасць аматараў гісторыі не мае яснага ўяўлення пра тое, чым адрознівалася становішча беларускага селяніна ў XVI ст. ад становішча яго нашчадкаў

[12] В. Носевич, *Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе*, Минск 2004.

[13] J. Rutkowski, *Wokół teorii ustroju feudalnego*, [w:] *Prace historyczne*, pod red. J. Topolskiego, Warszawa 1982; ён жа, *Wieś europejska późnego feudalizmu (XVI-XVIII w.)*, pod red. J. Topolskiego, Warszawa 1982; W. Kula, *Teoria ekonomiczna ustroju feudalnego*, Warszawa 1983; J. Topolski, *Przełom gospodarczy w Polsce XVI wieku i jego następstwa*, Poznań 2000.

[14] В. Носевич, *Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе*, с. 345-346.

у сярэдзіне XIX ст. Таму я пастанавіў правесці ўласнае даследаванне азначанай праблемы ў рэчышчы такой даследніцкай парадыгмы як лакальная гісторыя, ці гістарычная лакалістыка. Гэты падыход дазваляе выявіць тыя характэрныя рысы прадмета даследавання, якія з'яўляюцца нябачнымі з макрагістарычнай перспектывы. Акрамя таго, як слушна, на маю думку, напісаў выдатны польскі сацыёлаг вёскі Ежы Халасінскі, „wielkie społeczeństwo nie może być zbadane inaczej, jak tylko poprzez odpowiednio dobrane reprezentacyjne jednostki terenowe"[15].

Дадзенае даследаванне нельга, напэўна, назваць мікрагістарычным у класічным разуменні гэтага тэрміна. Прадметам мікрагістарычных даследаванняў, як адзначае французскі аўтар Жак Рэвель[16], звычайна з'яўляецца вызначэнне канфігурацыі сацыяльных мікраструктур на ўзроўні лакальных супольнасцей, а таксама паводзіны і жыццёвыя стратэгіі звычайных, „простых" людзей, пра якіх часта забывалася гістарыяграфія ў яе пануючым макрагістарычным дыскурсе. Таму класічным мікрагістарычным даследаваннем можна лічыць такое даследаванне, якое адпавядае перафармуляванаму гісторыкамі выказванню славутага антраполага Кліфарда Гірца, што гісторыкі вывучаюць не вёскі, а вывучаюць у вёсках[17]. Маецца на ўвазе, што вывучаюцца якраз адносіны паміж людзьмі, іх светапогляд і ментальныя структуры.

Што ж датычыцца абранага намі мікрарэгіёна і храналагічнага перыяду, дык існуючая база крыніц не заўсёды дазваляе ставіць такія складаныя даследніцкія задачы, пакольі з'яўляецца занадта сціплай для гэтага. Таму дадзенае даследаванне, на маю думку, варта аднесці да парадыгмы лакальных гістарычных даследаванняў. Напрыклад, у польскай гістарыяграфіі і сацыялогіі падобныя працы прынята называць манаграфіямі асобных населеных пунктаў ці мікрарэгіёнаў[18].

Аб'ектам дадзенага даследавання стаў мікрарэгіён Скідзельшчына ў Гарадзенскім павеце, які на працягу разглядаемага храналагічнага перыяду ўяўляў сабой асобную адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку. Адміністрацыйным цэнтрам дадзенага мікрарэгіёна з'яўляўся двор Скідзель (у часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай — вялікакняскі (каралеўскі), а ў перыяд Расійскай імперыі — прыватнаўласніцкі), а гандлёвым і рэлігійным — аднайменнае мястэчка, заснаванае дзяржаўнай уладай у сярэдзіне XVII ст. Двор Скідзель знаходзіўся на адлегласці прыкладна 30 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Гродна (да XVII ст. у крыніцах

[15] Цытую па: I. Bukraba-Rylska, *Socjologia wsi polskiej...*, s. 24.

[16] Ж. Ревель, *Микроисторический анализ и конструирование социального*, [в:] *Одиссей. Человек в истории*, Москва 1996, с. 110.

[17] Х. Медик, *Микроистория*, „THESIS. Теория и история экономических и социальных институтов и систем", 1994, т. II, вып. 4, с. 196.

[18] I. Bukraba-Rylska, *Socjologia wsi polskiej...*, s. 23.

пераважавала назва Горадна). Яму падпарадкоўваліся ваколічныя вёскі, размешчаныя пераважна па берагах рэк Нёмана, Котры, Скідлянкі, Спушы, Пыранкі і Доўжыцы. Амаль усе гэтыя вёскі былі заснаваныя ў часе правядзення валочнай памеры ў 1558 г. Практычна ўсе жыхары Скідзельшчыны сустракаліся ў святочныя і торговыя дні ля прыходскай царквы ці на местачковым кірмашы. Многія з іх асабіста ведалі адзін аднаго. Такім чынам, насельніцтва даследуемага мікрарэгіёна ўтварала лакальную сацыяльную супольнасць, звязаную бясконцым мноствам сваяцкіх, суседскіх, сяброўскіх і гаспадарчых адносін, цесна пераплеценых паміж сабой. Дворная ўлада аказвала вялікі ўплыў на жыццё акрэсленай супольнасці. І вельмі важным аспектам гэтага ўплыву выступалі павіннасці, якія мясцовыя жыхары павінны былі выконваць адносна двара. Мэтай дадзенага даследавання стала вызначэнне структуры і дынамікі гэтых павіннасцей на працягу ўсяго перыяду існавання фальварачна-паншчыннай сістэмы арганізацыі мясцовага жыцця.

Адразу паўстае ключавое для лакальных даследаванняў пытанне, пра якое пісаў і Ежы Халасінскі — пытанне рэпрэзентатыўнасці абранага аб'екта даследавання. Наколькі тыповым для Беларусі з'яўляецца дадзены мікрарэгіён? Інакш кажучы — ці можна атрыманыя намі вынікі экстрапаліраваць на іншыя рэгіёны краіны? Адразу хацелася б падкрэсліць, што пытанне тыповасці ў рамках мікрагістарычнага падыходу ў тэарэтычным плане практычна невырашальнае, як, зрэшты, і пытанне непазбежнай павярхоўнасці ў макрагістарычных працах. Варта звярнуць увагу на тое, што ў макрагістарычных даследаваннях беларускай вёскі вельмі часта аўтары на падставе некалькіх лакальных інфармацый робяць высновы адносна, напрыклад, усёй тэрыторыі Беларусі. Тэарэтычнага абгрунтавання выбаркі, як гэта прынята, напрыклад, у сацыялогіі, ніхто з гісторыкаў, па сутнасці, не рабіў. Такі падыход, названы польскім метадолагам Ежы Тапольскім няпоўнай індукцыяй[19], непазбежны ў працы гісторыка. Але ж адначасова ён непазбежна спараджае і дыскусійнасць многіх высноў.

У дадзеным даследаванні я прапаную іншае развязанне праблемы рэпрэзентатыўнасці атрыманых вынікаў — пайсці шляхам ад адваротнага. Інакш кажучы, я не знайшоў нейкіх выразных прыкметаў нетыповасці вывучаемага мікрарэгіёна. Натуральна, што Скідзельшчына мела сваю спецыфіку. У першую чаргу — гэта гістарычна дзяржаўнае ці вялікакняскае (каралеўскае) уладанне. Сяляне дзяржаўных уладанняў знаходзіліся ў трохі лепшай прававой сітуацыі ў параўнанні з прыватнаўласніцкімі сялянамі: яны ўсё ж маглі скардзіцца манарху на сваіх дзяржаўцаў, аканомаў і арандатараў. Таксама Скідзельшчына была раз-

[19] J. Topolski, *Wprowadzenie do historii*, Poznań 1998, s. 64.

мешчаная адносна блізка да вялікага па беларускіх мерках горада (Горадна), да стратэгічных сухапутных і рачных (Нёман) шляхоў, што спрыяла развіццю гандлёва-рынкавых адносін. Але для паўночна-заходняй Беларусі ў акрэслены перыяд гэтыя фактары выглядаюць абсалютна тыповымі. Большасць жыхароў Скідзельшчыны ад пачаткаў хрысціянізацыі належала да Праваслаўнай царквы, а пасля Берасцейскай уніі перайшла ў грэка-каталіцтва, што таксама з’яўляецца абсалютна тыповым для большасці рэгіёнаў Беларусі. Натуральна, што атрыманыя намі вынікі могуць мець абмежаванае дастасаванне да іншых рэгіёнаў краіны. Але я глыбока перакананы, што толькі праз правядзенне падобных лакальных даследаванняў і параўнанне іх вынікаў мы можам атрымаць максімальна поўную і найбольш аб’ектыўную канструкцыю даследаванай гістарычнай рэчаіснасці.

Галоўнымі крыніцамі ў нашым даследаванні сталі гаспадарчыя інвентары Скідзельскай воласці, ключа і маёнтка, якія ўтрымліваюць дастаткова грунтоўную інфармацыю пра землекарыстанне, сялянскія павіннасці, гаспадарчае жыццё і дэмаграфічныя структуры вывучаемай лакальнай супольнасці. Намі былі прааналізаваныя інвентары 1558, 1578, 1650, 1679, 1708, 1712, 1792, 1845 гадоў. Гэтыя дакументы на сённяшні дзень захоўваюцца ў архівах Гродна, Мінска, Вільні, Варшавы і Вроцлава[20]. Іх аналіз з выкарыстаннем колькаснага і параўнаўчага метадаў устанаўлення гістарычных фактаў дазваляе, як нам уяўлецца, акрэсліць у максімальна магчымым набліжэнні структуру і дынаміку феадальных павіннасцей мясцовых жыхароў, а таксама дапамагае максімальна поўна адказаць на пытанне як жа ўсё-такі жылося беларускаму селяніну на Скідзельшчыне на працягу амаль чатырох стагоддзяў існавання тут фальваравачна-паншчыннай сістэмы.

У матэрыялах Літоўскай метрыкі канца XV — пачатку XVI стст. Скідзель узгадваецца як вялікакняскі двор у Гарадзенскім павеце, які падпарадкоўваўся гарадзенскаму старасту. З тых дакументаў вынікае, што ад скідзельскага двара належала дзесяціна на карысць каталіцкага кас-

[20] *Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленскою коммисией для разбора Древних актов*, ч. 1, Вильно 1881, с. 79-120; Archiwum Główne Akt Dawnych (далей: AGAD), AK, I/10 (Inwentarz przyjęcia dworów starostwa grodzieńskiego 1578 r.); Ossolineum, nr 5620/II (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г.), s. 255-289; Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (далей: ДГАЛ), ф. 110, воп. 1, спр. 3 (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1680 г.), арк. 70-80; ДГАЛ, SA, № 11 290 (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1708 г.), арк. 49-54; № 11291 (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1712 г.), арк. 36 адв. — 41; ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397 (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г., арк. 301-323 адв.; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей: НГАБ у Гродне), ф. 96, воп. 1, спр. 1267 (Інвентар маёнтка Скідзель Чацвярцінскіх за 1845 г.), арк. 1-96.

цёла Маткі Божай (пазнейшая Фара Вітаўта) у Горадне. Падчас спрэчкі з магнатам Мікалаем Пацам (які не жадаў плаціць гэтай самай дзесяціны з зямель, што адышлі да яго ад Скідзеля) вялікі князь Жыгімонт І Стары (1506-1548) пастанавіў у 1511 г.: „коли то держано было за отца и за брата нашого, кролевъ ихъ милости, и за насъ къ двору нашому Скидълю, а десетина съ того даивана, — ино и тыми разы не слушная речь то намъ рухати”[21].

9 студзеня 1516 г. Жыгімонт І заставіў двор Скідзель гарадзенскаму старасту Юрыю Мікалаевічу Радзівілу за 500 коп[22] грошай з усімі людзьмі Скідзельскай воласці, з іх службамі і падаткамі, з усімі даходамі, „которые зъ места и з волости Скидельской на насъ (г.зн. на гаспадара — аўтар) хоживали”[23]. Наступны застаўны ліст быў выдадзены ў 1520 г., калі за 981 капу грошай літоўскіх Юры Радзівіл атрымаў у дзяржанне двары Жараслаўку і Скідзель[24]. У гэтым лісце вялікі князь заставіў „ему тот двор наш у Городеньском повете на имя Скидел з дворцомъ Жорославскимъ, со всими людми нашыми Скидельское и Жорославское волости путъными и данными, и с тяглыми, и с конюхи, и с кухарьми, и с псарцы, и ловцы, и осочники, и сторожи, и со всими иными людми тых волостеи наших, и зъ их всими службами, и з данными грошовыми и медовыми, и с бобровыми, и куничными, и с дяклами оръжаными и овсяными, и с сеном подяколным, и с колодиною, и с корчомными пенязми, и з ставы, и з млыны, и пожитки, которие з места и з волости Скидельское и Жорославское на нас хоживали, и с пашнею дворною, и с землями пустовскими, со всим с тым, как тые двори наши на насъ деръжаны были, ничого на нас не оставляючи”. Тэкст застаўнога ліста ўпершыню падае звесткі пра павіннасці жыхароў Скідзельшчыны адносна вялікакняскага двара. Згадка пра „цяглых людзей” і „дворную пашню” пераконвае, што ў Скідзелі ўжо функцыянавала на той час фальварачная гаспадарка з адпрацовачнымі павіннасцямі мясцовых сялян.

У 1537 г. Скідзель таксама ўзгадваецца як уладанне вялікай княгіні Боны Сфорцы, жонкі Жыгімонта І Старога[25]. Менавіта яна стала адным з ініцыятараў правядзення ў ВКЛ аграрнай рэформы, якая атрымала назву валочнай памеры. Гэтая рэформа ў вялікай ступені прадвызначыла на наступныя стагоддзі кірунак і характар развіцця гаспадарчых і сацыяльных працэсаў у беларускім грамадстве. Сутнасць яе палягала на абмеры ворных зямель і падзеле іх на асобныя надзелы —

[21] „Русская историческая библиотека”, т. 20, Книга судных дел 2, № 144, ст. 753.

[22] Капа — грашовая адзінка ў ВКЛ, роўная 60 грошам.

[23] Lietuvos Metrika (далей: LM) — 9 (1511-1518) / užrašymų knyga 9, Vilnius 2002, № 210, с. 174.

[24] LM — 10 (1440-1523) / užrašymų knyga 10, Vilnius 1997, № 67, с. 76.

[25] LM — 1 (1380-1584) / užrašymų knyga 1, Vilnius 1998, № 260, с. 62; № 263, с. 63.

валокі[26] — з дакладна вызначанымі сялянскімі павіннасцямі за карыстанне імі. Каралева Бона пачала ажыццяўляць валочную памеру на сваіх землях ужо ў 1530-ыя гады, а ў 1557 г. яе сын Жыгімонт II Аўгуст (1548-1572) выдае адмысловую „Уставу на валокі", якая падрабязна вызначала характар рэформы ў гаспадарскіх уладаннях. У 1558 г. былі выдадзеныя дапаўненні да азначанай Уставы.

У тым жа 1558 г. каралеўскімі дваранамі Себасцянам Дыбоўскім і Лаўрынам Войнай быў складзены рэгістр, ці падрабязнае апісанне Гарадзенскага староства, у тым ліку і Скідзельскай воласці, у якім былі адлюстраваны вынікі праведзенай тут валочнай памеры[27]. Гэты дакумент утрымліваў і першае з вядомых нам падрабязнае апісанне вялікакняскага двара Скідзель. З дадзенага апісання вынікае, што тут існавала ўжо даволі развітая фальварачная гаспадарка. Дворнае ворыва займала плошчу 24 валокі і ў адпаведнасці з трохпольнай сістэмай земляробства было падзеленае на тры палеткі па 8 валок у кожным. Дворная сенажаць таксама была падзеленая на тры часткі, кожную з якіх былі абавязаныя скошваць мясцовыя войты (карашаўскі Клім Корпач, паддоўжыцкі Раман Буры і наднёманскі Ян Коўш) са сваімі войтаўствамі. Агульная плошча дворнай сенажаці складала 4 валокі 24 моргі. Паблізу двара размяшчаліся пяць агародаў, рыбны стаў і сад вакол яго. Над рэчкай Скідлянкай размяшчаўся выган для дворнай скаціны плошчай 1 валока 6 моргаў, аднак, колькасць жывёлы ў інвентары не прыводзілася. Усяго ж, як можна падлічыць, да скідзельскага двара непасрэдна належала больш 30 валок зямлі (прыблізна каля 600 га).

На супрацьлеглым ад двара беразе Скідлянкі былі пасаджаныя 24 сям'і агароднікаў, якія карысталіся агародамі па 6 моргаў зямлі[28]. Ад кожнага агарода належала адпрацаваць штотыдзень па 2 пешых дні ў двары, а летам — таксама 6 жаночых дзён. Паходжанне сацыяльнай групы „агароднікаў" да канца не высветленае ў гістарыяграфіі. Існуе меркаванне, што гэта былі нашчадкі ваеннапалонных ці „чэлядзі нявольнай". Насамрэч, умовы іх жыцця, а найперш павіннасці адносна двара, выглядалі больш цяжкімі ў параўнанні з іншымі жыхарамі воласці.

На адной вуліцы з агароднікамі былі паселеныя „служкі". Яны ўтваралі дзве заможныя гаспадаркі па 2 валокі. Жук і Яшка Кулішэвічы мелі 6 валоў і 3 коней, а Багдан і Андрэй Кулішэвічы 4 валы і 2 коней[29].

[26] Валока — асноўная зямельная мера і адзінка падаткаабкладання ў Вялікім Княстве Літоўскім. Раўнялася 21,36 га, складалася з 30 моргаў.

[27] *Писцовая книга Гродненской экономии...*, с. 120., ч. 1, Вильно 1881, с. 79-120.

[28] Там жа, с. 79.

[29] Там жа, с. 80-81.

Служкі былі вольныя ад чыншу і адпрацовак. Яны належалі да прывілеяванай групы сялянскага насельніцтва ВКЛ, іх абавязкам з'яўлялася выкананне розных даручэнняў дворнай улады.

Звычайныя сяляне падпарадкоўваліся ўладзе войтаў, якія паходзілі з іх складу і прызначаліся на свае пасады дваром. Да Скідзельскай воласці ў 1558 г. належалі тры войтаўствы — Скідзельскае, Наднямонскае і Паддоўжыцкае. У склад Скідзельскага войтаўства ўвайшлі вёскі Вялікае Карашава (пазней — Белякоўшчына), Малое Карашава, Некрашы, Падлессе (Гніляны ці пазнейшыя Гліняны), Раўкоўцы і Сухаўляны, размешчаныя бліжэй да двара па берагах рэк Скідлянка і Спушанка. Да Наднямонскага войтаўства належалі вёскі Капачова (пазнейшае Каўшова), Мазанава, Пярэдняя Пыра, Бірулічы і Канюхі, пасаджаныя па берагах Нёмана, Котры і Пыранкі. А ў Паддоўжыцкае войтаўства ўвайшлі толькі Пузева і Храпава, размешчаныя на беразе рэчкі Доўжыцы. Да 1558 г. гэтыя вёскі нідзе ў дакументах не ўзгадваліся. Можна меркаваць, што яны паўсталі разам з правядзеннем валочнай памеры і шырокамаштабным пераразмеркаваннем зямельных надзелаў, якія вызначылі прасторавую арганізацыю Скідзельшчыны на наступныя пяць стагоддзяў. Амаль усе вёскі, якія былі тады ўтвораныя, так і захаваліся да сённяшняга дня, толькі некаторыя з часам змянілі свае назвы.

У выніку правядзення валочнай памеры ў 13 вёсках Скідзельскай воласці была нададзена сялянам 341 валока ворнай зямлі, з іх 168 цяглых (49,2%), 89 асадных (26%), 39 служэбных (11,4%), 45 заставаліся яшчэ непрынятымі (13,1%) — (табліца 1). З кожнай цяглай і асаднай валокі належала плаціць двару грашовы чынш: 8 грошаў з дрэннага грунту і 12 з сярэдняга грунту. „Добрай" і „вельмі дрэннай" зямлі ў воласці не было ўвогуле. Апроч таго, сяляне абавязваліся з валокі зямлі даваць двару 6 грошай даніны (гэта быў грашовы эквівалент гускі, дзвюх курыц і 20 яек), за невады (права рыбнай лоўлі) — 2 грошы, а таксама воз сена (альбо замест яго 3 грошы) і за адвоз яго да двара 2 грошы. У суме гэта складала ад 21 да 25 грошаў з адной валокі ў залежнасці ад яе якасці. Апроч таго, з цяглых валок належала адпрацаваць у двары па два дні ў тыдзень „з чым двор прыкажа". У суме з усіх цяглых валок воласці належалі 384 дні паншчыны ў тыдзень, у тым ліку 48 пешых дзён з агароднікаў.

А з асадных валок замест працы ў двары належала плата „асады" 30 грошаў, за гвалты[30], бочку[31] (з дрэннай зямлі) або дзве (з сярэдняй якасці

[30] Гвалты (згоны) — адпрацовачная павіннасць сялян для тэрміновых сельскагаспадарчых работ у двары феадала, удзельнічаць у выкананні якой абавязваліся ўсе працаздольныя сяляне.

[31] Бочка — асноўная адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У разглядаемы перыяд, як сцвярджае В. Насевіч, выкарыстоўвалася бочка, якая складалася з чатырох карцоў і мела аб'ём прыкладна 154 л.

глебы) жыта, ці па 10 грошаў за бочку, за талаку[32] 12 грошаў. У суме з валокі выходзіла ад 68 да 77 грошаў. З усіх валок, як цяглых, так і асадных, належала таксама даць двару дзякла — адну ці дзве бочкі аўса (ці 5 грошаў) і 5 грошаў за адвоз кожнай бочкі. Такім чынам, абавязкі жыхароў Скідзельскай воласці складаліся з камбінацыі грашовых, натуральных і адпрацовачных павіннасцей. Калі ж усе павіннасці з асаднай валокі пераводзіліся на грошы, дык гэта складала 97 грошаў з валокі сярэдняй якасці і 73 грошы з зямлі дрэннай якасці.

Звыш ворыўных зямель сялянам дадаваліся яшчэ сенажатныя моргі па 1 ці па 2 моргі на валоку. Прычым яны маглі быць даволі аддаленымі ад вёскі. Плата за сенажатныя моргі складала ад 5 пенязяў[33] да 1 гроша 7 пенязяў за адзін морг. Апроч таго, многім вёскам, а таксама і асобным сялянам, надаваліся дадатковыя ворыўныя моргі, ці прыдаткі. Напрыклад, сяляне вёскі Некрашы прынялі дадаткова 14 моргаў „подлага" ворыўнага грунту з умовай плаціць за морг па 2 грошы. Жыхары вёскі Сухі Скідзель Сцяпан і Васька Храпялевічы і Якаў Трошчыч каля вёскі Падлесся і лесу Гніліца прынялі „сенажаць з кустамі 5 моргаў подлага грунту" з платай па 5 пенязяў за морг.

Не ўсе вымераныя валокі былі прынятыя сялянамі. Над возерам Андрусевічы і каля аднайменнага сяла 20 валок прызначаліся для вёскі Малы Карашаў. Але, на той час, асочнікі Стрыеўскага лясніцтва Шымка, Блажэй і Янка Яцкевічы, Іоська і Сенька Несцяровічы прынялі толькі дзве валокі. Можна меркаваць, што яны былі заможнымі гаспадарамі, паколькі разам мелі 8 коней і 11 валоў. Валокі Малога Карашава, як адзначалася ў тэксце дакумента, „лясамі і багнамі выходзяць". На першы год пасяленцы былі вольныя ад усіх павіннасцей, а потым два гады абавязваліся плаціць па 42 грошы з валокі, калі і гэты тэрмін заканчваўся, дык выконваць павіннасці, як і астатнія жыхары воласці.

Да Скідзельскага войтаўства таксама належала „псярэцкае" сяло Раўкоўцы. У тым сяле налічвалася 30 валок сярэдняга грунту, з іх 15 псярэцкіх вольных, 10 лоўчых вольных і 5 асадных на чыншу. Псярцы Войтка Сяньковіч, Дзямід Станіслававіч, Грынец Іванавіч, Васіль Казелек і Путач Сезюковіч жылі пры скідзельскім двары і былі вольныя ад усякіх платаў. За 5 асадных валок належала плаціць па 97 грошаў. А павіннасцю з 10 лоўчых валок „вэдлуг старадаўняга абычаю" было на каралеўскія ловы з сабакамі хадзіць, а таксама нарыхтаваць 5 сціртаў сена на вялікакняскія ловы ў Берштаўскай пушчы. Апроч таго, многія

[32] Талака — народны звычай калектыўнай дапамогі. Паступова ператварылася ў прымусовыя работы на грамадскія патрэбы і карысць феадала.

[33] Пенязь — грашовая адзінка ў ВКЛ. 10 пенязяў раўняліся аднаму літоўскаму грошу.

гаспадары гэтага сяла прынялі за плату розныя засценкі і моргі. Раўкоўцы ўвогуле выглядалі самымі заможнымі ў Скідзельскім войтаўстве: жыхарам гэтага сяла належалі 80 валоў і 41 конь.

Як вынікае з крыніц, самымі заможнымі гаспадарамі былі войты. Войт Наднямонскага войтаўства Ян Коўш з сынамі Сташкам і Грысютам трымаў 4 валокі (з іх дзве войтаўскія, вольныя ад платы) у сяле Капачове ці Каўшове, меў 7 валоў і 5 коней. Ён жа прыняў яшчэ бору хваёвага „годнага на будаванне” 3 валокі грунту „выпустнога”, вельмі „подлага”, за які павінен быў плаціць па 15 грошаў за валоку. Войт Паддоўжыцкага войтаўства Грынец Хвядцэвіч меў дзве вольныя валокі ў сёлах Пузеве і Храпаве.

Сяло Пузева з’яўлялася самым вялікім на Скідельшчыне — 52 валокі сярэдняга грунту. Прычым усе яны, апроч вольнай войтаўскай, былі асаднымі. У вёсцы Храпава налічваліся 34 валокі сярэдняга грунту. Але ў 1559 г. было прынята толькі 6 валок, а ў 1560 г. — яшчэ тры. Заставаліся непрынятымі 24 валокі. Навасельцы, паводле ліста рэвізораў пана Пальчэўскага і ксяндза Піліхоўскага, павінны былі плаціць на працягу трох першых гадоў па 42 грошы чыншу, „poki się pobuduią i włoki naprawią”[34].

Каля моста на рэчцы Котры насупраць вёскі Пярэдняя Пыра, каля гасцінца, які вёў з Горадна на ўсход, засталося 25 моргаў грунту подлага, якія пакінулі пад карчму. Гэта была адзіная згадка пра карчму ў апісанні Скідзельскай воласці. Прыняў гэты засценак жыхар Пыры Іван Русак з платай па 2 грошы за морг. Паміж вёскамі Пярэдняя Пыра і Некрашы знаходзіўся засценак плошчай 2 валокі 5 моргаў, які належаў да праваслаўнай царквы св. Юрыя, а таксама дамы папоў той царквы. Гэта была адзіная згадка пра рэлігійны аспект мясцовага жыцця ў апісанні воласці.

***Табліца 1***
**Землекарыстанне і павіннасці сялян Скідзельскай воласці паводле апісання 1558 г.**

| Вёска | Колькасць ворыўных валок | | | | | Грашовыя павіннасці (у грошах) | Натуральныя павіннасці (у бочках аўса) | Адпрацовачныя павіннасці (штотыднёвая паншчына) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цяглыя | Асадныя | Службовыя | Непрынятыя | Разам | | | |
| **Скідзельскае войтаўства** | | | | | | | | |
| Белякоўшчына | 22 | - | 1 | 3 | 26 | 598,1 | 22 | 44 |
| Гніляны (Падлессе) | 34 | - | 2 | - | 36 | 978,4 | 68 | 68 |
| Карашава М. | - | 4 | - | 16 | 20 | 84 | - | |

[34] *Писцовая книга Гродненской экономии...*, с. 120.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Некрашы | 14 | 2 | - | - | 16 | 564 | 32 | 28 |
| Раўкоўцы | - | 5 | 25 | - | 30 | 524,5 | - | - |
| Сухаўляны | 28 | - | 2 | - | 30 | 605,5 | 28 | 56 |
| **Разам** | **98** | **11** | **30** | **19** | **158** | **3354,5** | **150** | **196** |
| **Надняманскае войтаўства** | | | | | | | | |
| Бірулічы | 14 | 3 | - | - | 17 | 648,8 | 28 | 28 |
| Канюхі | - | 13 | - | 2 | 15 | 949 | 13 | - |
| Каўшова | 39 | 2 | 3 | - | 44 | 1412 | 78 | 78 |
| Мазанава | 11 | - | - | - | 11 | 275 | 22 | 22 |
| Пярэдняя Пыра | 6 | - | - | - | 6 | 311,8 | 12 | 12 |
| **Разам** | **70** | **18** | **3** | **2** | **93** | **3596,6** | **153** | **140** |
| **Паддоўжыцкае войтаўства** | | | | | | | | |
| Пузева | - | 51 | 1 | - | 52 | 4015 | 102 | - |
| Храпава | | 9 | 1 | 24 | 34 | 395 | - | - |
| **Разам** | | **60** | **2** | **24** | **86** | **4410** | **102** | **-** |
| Агароднікі | 24 агароды па 6 моргаў (каля 5 валок) | | | | | 40,8 | - | 48 пешых дзён |
| Служкі | - | - | 4 | - | 4 | 13,6 | - | - |
| **Усяго ў Скідзельскай воласці** | **168** | **89** | **39** | **45** | **341** | **11415,5** | **405** | **384** |

**Крыніца:** *Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленскою коммисией для разбора Древних актов*, ч. 1, Вильно 1881, с. 79-120.

Наступны інвентар Скідзельскай воласці быў складзены ў верасні 1578 г.[35] Гэты дакумент зафіксаваў пэўны намінальны рост грашовых павіннасцей[36]. Напрыклад, эквівалентам натуральнай даніны (гуска, дзве курыцы і 20 яек з валокі) цяпер лічыліся 8 грошаў, а не 6, як у 1558 г. У вёсцы Пузавічы сяляне трымалі на „асадзе" 7 поўных валок, а 8 гаспадароў — па $^1/_2$ валокі. За поўную асадную валоку трэба было плаціць 100 грошаў. Цяглыя ж гаспадары адпрацоўвалі ў двары два дні ў тыдзень, давалі 12 грошаў чыншу, 8 грошаў даніны, 5 грошаў за воз сена, а таксама дзве бочкі аўса. У сяле Вялікае Карашава з 11 асадных валок належала плаціць па 100 грошаў, а з двух — па дзве капы (120 грошаў). Замест бочкі аўса з адвозам можна было заплаціць 10 грошаў. У вёсцы Канюхі, дзе былі валокі дрэннай якасці, з асадных гаспадароў належала двару 42 грошы асады і бочка жыта (альбо замест яе 10 грошаў). Але асадных

[35] AGAD, AK, I/10 (Inwentarz przyjęcia dworów starostwa grodzieńskiego 1578 r.).

[36] Там жа, k. 151-166.

валок тут на той час не было, і ўсе жыхары сядзелі на цяглай павіннасці: адпрацоўвалі па два дні ў двары, а таксама плацілі чынш 8 грошаў, давалі 8 грошаў за даніну і 10 грошаў за авёс з адвозам.

У вёсцы Некрашы цяглыя сяляне з сярэдняга грунту плацілі 12 грошаў чыншу, 8 грошаў даніны, 5 грошаў за воз сена, давалі 2 бочкі аўса з адвозам (альбо плацілі 20 грошаў), а таксама павінны былі працаваць па два дні ў тыдзень і абрабляць 6 валок дворнага ворыва. Адзін жа на ўсю вёску асадны гаспадар плаціў двару 67 грошаў асады, даваў бочку жыта і дзве аўса з адвозам (эквівалент 30 грошаў). Такія ж павіннасці былі вызначаныя з сяла Падлесся (Гніляны). У сяле Сухі Скідзель цяглыя плацілі 8 грошаў чыншу, столькі ж даніны, 5 грошаў за воз сена, давалі бочку аўса і 5 грошаў за яго адвоз. Асадныя ж гаспадары ў гэтым сяле плацілі 42 грошы, давалі бочку жыта (альбо 10 грошаў), бочку аўса і 5 грошаў за адвоз. Такім чынам, назіралася пэўнае адступленне ад аднастайнасці павіннасцей, вызначаных Уставай 1557 г., што, напэўна, абумоўлівала спецыфіка кожнай вёскі, жыхары якой непасрэдна дамаўляліся з дворнай адміністрацыяй і дасягалі кампрамісных умоў у кожным канкрэтным выпадку.

У сяле Капачове (Каўшове) у 1578 г. усе 44 валокі сталі асаднымі, прычым за 20 $^{1}/_{2}$ належала плаціць па 100 грошаў, а за 21 — па 2 капы (120 грошаў). Але на 1579 г. інвентар з усіх валок прадпісваў ужо плаціць па 2 капы. Мясцовы войт меў вольную войтаўскую валоку і яшчэ тры трымаў на чыншу. Сяляне гэтай вёскі таксама паведамілі рэвізорам, што ім раней было нададзена 10 валок на выслугу, але „таго не паказалі”[37].

У 1589 г. у адпаведнасці з сеймавай канстытуцыяй з дзяржаўных зямельных валоданняў вылучаліся сталовыя эканоміі (сталовыя добры), даходы ад якіх прызначаліся на забеспячэнне асабістых патрэб вялікага князя (на стол). Воласць Скідзельскага двара ўвайшла ў склад Гарадзенскай каралеўскай эканоміі ў якасці асобнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі — ключа. На жаль, не маем дадзеных пра эвалюцыю сялянскіх павіннасцей у вёсках Скідзельскага ключа ў канцы XVI — першай палове XVII стст.

Істотныя змены ў жыцці Скідзельшчыны адбыліся ў сярэдзіне XVII ст. і былі яны звязаныя з заснаваннем мястэчка Скідзель. Яго гісторыя пачалася з прывілею караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV Вазы (1632-1648) ад 27 ліпеня 1644 г. Паводле гэтага прывілею, на адным з трох дворных ворыўных палеткаў, які быў размешчаны на супрацьлеглым ад двара Скідзель беразе Скідлянкі, закладвалася новае мястэчка. Напэўна, аўтары дадзенага праекта меркавалі, што гэтае мя-

[37] Там жа, k. 157.

стэчка неўзабаве стане лакальным цэнтрам рамёстваў і гандлю і будзе прыносіць каралеўскаму скарбу больш прыбытку, чым малаўраджайны пясчаны палетак (на гэтую ўласціваць азначанай часткі дворнага ворыва непасрэдна ўказвалі інвентары). Навасельцам надавалася чатырохгадовая „воля" ад усіх павіннасцей, каб маглі за гэты час паставіць свае хаты і гаспадарчыя пабудовы. Кароль таксама даравяў местачкоўцам права праводзіць два кірмашы на год: першы — на Зялёныя Святкі[38], другі — на дзень св. Іллі, а таксама штотыднёвы кірмаш кожны чацвер. Праз некалькі гадоў штотыднёвы кірмаш быў перанесены з чацвярга на аўторак.

Прасторавае ўпарадкаванне новага мястэчка знайшло сваё адлюстраванне ў матэрыялах інвентара Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1650 г. На той час каралём Рэчы Паспалітай быў ужо абраны брат Уладзіслава IV, Ян Казімір (1648-1668), а на ўсходзе дзяржавы палыхала казацкае паўстанне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Але да Гарадзеншчыны вайна яшчэ на дайшла. Каморнік Гарадзенскай каралеўскай эканоміі Войцех Пуцілоўскі вымераў у Скідзелі квадратны паводле сваёй формы рынак, які займаў плошчу 3 моргі і 9 прутоў, а таксама 100 местачковых пляцаў пад засяленне будучымі мяшчанамі. У цэнтры рынка, як можна меркаваць на падставе тэксту інвентара, ужо паўстала (ці яшчэ толькі будавалася) царква: „(...) w pośrodku którego Cerkiew nowa zbudowana założona SS Apostołów Pietra y Pawła"[39]. З рынкавых пляцаў 2 былі аддадзеныя святару, адзін — пад дворную карчму. Гэтыя пляцы абвяшчаліся вольнымі ад усякай платы. А з астатніх $19^1/_2$ рынкавых пляцаў належала плаціць у каралеўскі скарб па 12 грошаў чыншу. За вулічныя пляцы быў вызначаны трохі меншы чынш — па 10 грошаў[40].

На Гарадзенскай вуліцы, якая вяла ад местачковага рынку ў кірунку Горадна, было вымерана 13 пляцаў, з якіх адзін пляц прызначаўся на шпіталь і быў таксама абвешчаны вольным ад падаткаў. На вуліцы Азёрскай лічылася 20 пляцаў, Віленскай — $19^1/_2$, Навагрудскай — 10, Луненскай — $6^1/_2$, Катранскай — $7^1/_2$. На Луненскай вуліцы 2 пляцы былі прызначаныя пад школу для дзяцей і абвяшчаліся вольнымі ад платы.

Увесь дворны палетак, на якім паўстаў Скідзель, лічыў 250 моргаў ворыўнай зямлі. З іх 47 моргаў пайшлі ўласна пад сялібы мястэчка, адзін морг, вольны ад платы, быў пакінуты для „даўняй карчмы". За

[38] Зялёныя Святкі — Сёмуха, Святая Тройца, рэлігійнае свята на сёмы тыдзень пасля Вялікадня.

[39] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі у Мінску (далей: НГАБ у Мінску), ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 56 адв.

[40] Там жа.

астатнія ж 202 моргі скідзельцам належала плаціць па 48 грошаў, што складала 161 капу 36 грошаў. Тут трэба адразу адзначыць, што азначаны памер аплаты быў надзвычай высокі. З гэтых местачковых моргаў скідляне таксама абавязваліся даваць дзесяціну на карысць фарнага касцёла ў Горадне: „Dziesięcinę iedną z tego ż Pola iako zdawna była Kościołowi Farnemu Grodzieńskiemu w cale zachować”[41]. Гэта значыць, што адразу пасля збору ўраджаю, дзесятая яго частка аддавалася касцёлу, хаця самі скідляне ў большасці тады былі ўніятамі паводле сваёй канфесійнай прыналежнасці. Таксама местачкоўцам былі нададзены 3 моргі выгану для хатняй жывёлы і 3 моргі альховага гаю над рэчкай Скідлянкай без усялякіх выплатаў на карысць двара. Зрэшты, у інвентары гэта тлумачылася тым, што азначаныя моргі нельга будзе ўратаваць ад патраваў з прычыны блізкага суседства з мястэчкам.

У апісанні мястэчка пералічваюцца рамеснікі, якія абавязваліся даваць двару за сваю рамесніцкую дзейнасць па 1 грошу. Гэтыя грошы належалі ад 5 рэзнікаў, 3 кавалёў, сталяра, 4 шаўцоў, гарбара, кушнера, 6 пякарак. Карчэмная арэнда ці „kapszczyzna” павінна была выбірацца ад шынкароў ад кожнай варкі піва па 30 грошаў літоўскіх і ад палення гарэлкі (гэта была першая пісьмовая згадка пра з’яўленне новага моцнага алкагольнага напою на Скідзельшчыне) ад кожнай бочкі гарэлкавага соладу 8 літоўскіх грошаў. Шынкары павінны былі плаціць ад кварты[42] выпаленай („przepaloney” ці перагнанай) хатняй (напэўна, мелася на ўвазе, гарэлка вырабленая непасрэдна пры шынку ці карчме) ці прывознай гарэлкі па 4 „pieniędzy” (напэўна, меліся на ўвазе пенязі), а ад кварты простай гарэлкі („Prostey Gorzałki”) — па 2. Плаціць належала таму, хто будзе для гэтага пастаўлены: „Szynkarz każdy płacić powinien do rąk tego, kto będzie na dozór takowych pożytków postanowiony”[43]. Калі б хто пажадаў заснаваць у мястэчку мядовую карчму, то мусіў бы плаціць 6 літоўскіх грошаў ад „rozsycenia” адной мядніцы[44] мёду. Ад дворнай карчмы, якая таксама павінна была паўстаць на местачковым рынку, планавалася атрымліваць штогод 12 коп грошай.

Жыхары Скідзельскай воласці, апроч шынкароў, таксама абавязваліся плаціць капшчызну па 12 літоўскіх грошаў ад кожнага вару піва для шынкавання, што значыла на продаж. Але піва, якое варылася на

41 Там жа, арк. 57 адв.

42 Кварта — адзінка вымярэння вадкіх і сыпкіх рэчываў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Раўнялася 0,70577 л.

43 НГАБ у Мінску, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 57 адв.

44 Мядніца — асноўная адзінка вымярэння мёду ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У розных месцах мела неаднолькавую велічыню. Паводле пастановы сейма 1766 г. раўнялася 19,76 л.

вяселлі, хрэсьбіны і памінкі вызвалялася ад гэтай аплаты: „(...) na wesela iednak krzciny Pominki wolno będzie poddanym bez płacenia kapszczyzny piwa sobie robić”[45]. Усе ж разам арэндныя выплаты складалі суму 160 коп літоўскіх грошаў. Прычым права варыць піва атрымлівалі толькі скідзельскія мяшчане, але не жыды: „(...) sami mieszczanie aniżeli żydzi”[46]. Для гэтага прадугледжвалася выбраць з ліку мяшчан двух альбо трох мужоў добра аседлых, якія б сачылі, каб ніхто без дазволу не варыў на продаж мёд, піва і гарэлку: „(...) być maią od których wybierania spośrodka siebie dwu albo trzech mężów dobre osiadłych maią obierać którzy by Pilne tego przestrzegali żeby skarbowi szkoda niebyła y żeby się nikt nie warzył miodu, Piwa y Gorzałki robić bez wiadomości tychże (...)”[47]. Гэтая першая згадка ў пісьмовых крыніцах пра механізм выбараў адказных асоб на Скідзельшчыне. Польскі гісторык Пшэмыслаў Баравік адзначае, што падобны орган мясцовага самакіравання, апроч Скідзеля, у іншых каралеўскіх мястэчках не згадваецца[48]. Напэўна, гэты запіс у інвентары быў скіраваны на тое, каб абараніць жыхароў новапаўсталага мястэчка ад эканамічнай экспансіі надзвычай актыўных жыдоўскіх карчмароў.

З местачковага млына належала плаціць двару ў год 12 коп грошаў, а млынары абавязваліся без аплаты малоць муку на дворныя патрэбы: „(...) w którym dworowi na potrzebę dworną wolne mliwo bez żadnych dawania miarek (...)”[49]. З тых жа, хто намерваўся прыехаць у мястэчка на штотыднёвы кірмаш у чацвер, каб прадаваць свой тавар, прадугледжваўся targовы падатак: ад бочкі солі і ад бочкі салёнай рыбы — 3 грошы, ад вэнджанай рыбы, якая на рожнах („rożenkach”) прадавалася — кожны дзясяты ражон, ад воза цыбулі — кожны дзесяты вянец, ад продажы галавы быдла — 2 грошы. Гэты падатак называўся стаўповым („stołpowem”). Таксама грошы браліся ад вазоў, саняў, карытаў і г.д. Але, каб з прычыны залішняга спагнання такіх падаткаў гандаль увогуле не заняпаў („targi nie zginęły”), агульная іх сума вызначалася ў 40 коп грошаў у год[50].

Рэзнікі, якія пасяліліся ў мястэчку, абавязваліся даваць двару лапатку і нагу ад кожнай забітай імі жывёлы. Але, хто прывозіў мяса ў мястэчка на продаж, дык не ўласна мясам, але гатоўкай (наяўнымі) павінен быў плаціць ад вялікай валовай тушы 2 грошы, ад меншай — 1 грош, а ад

[45] НГАБ у Мінску, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 57 адв.

[46] Там жа.

[47] Там жа.

[48] P. Borowik, *Skidel w połowie XVII i w XVIII w.*, [w:] *Małe miasta. Oświata i kultura*, Białystok 2004, s. 37-38.

[49] НГАБ у Мінску, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, акр. 57 адв.

[50] Там жа, арк. 58.

тушы свінні ці барана — паўгроша. Гэты „лапатковы” падатак у суме павінен быў скласці ў год 10 коп. Тут варта падкрэсліць, што азначаныя сумы мелі хутчэй тэарэтычны характар і яшчэ павінны былі вытрымаць праверку практычным жыццём.

Апроч уласна местачковых пляцаў, скідзельскія мяшчане забяспечваліся таксама ворыўнымі і сенажатнымі землямі. На падставе прывілею Уладзіслава IV ад 5 верасня 1647 г., падпісанага ў Саколцы, ім надаваліся 24 валокі ворнай зямлі ў вёсцы Храпава і 52 сенажатныя лугавыя моргі ва ўрочышчы Пашкоўшчына ў Старыне. Паколькі вёска Храпава пасля заснавання мястэчка болей нідзе ўжо не згадваецца менавіта як вёска, можна з вялікай доляй верагоднасці меркаваць, што яе жыхары ўвайшлі ў склад местачкоўцаў і перасяліліся на скідзельскія пляцы. З гэтых 24 храпаўскіх валок належала плата 40 коп, ці па 100 грошаў з валокі, а за сенажатныя моргі — па 1 грошу. Апроч таго, скідлянам раздаваліся не заселеныя да гэтага часу ворыўныя валокі ў Скідзельскай і нават у суседняй Мілкаўскай валасцях. У Малым Карашаве яны атрымалі 12 валок (павінны былі плаціць за іх двару па 1 капе чыншу за валоку), у Мільнаўшчыне і Плытніцы 10 валок (па 48 грошаў за валоку), а ў Вялікім Карашаве ці Белякоўшчыне — 14 валок (па 1 капе чыншу за валоку, а адна валока надавалася Скідзельскай царкве і заставалася вольнай ад аплаты). Таксама да местачковых былі аднесены 2 валокі, якія трымаў у вёсцы Глінянах войт Скідзельскай воласці Павел Казейка (за адну ён плаціў 3 капы, а за другую — 100 грошаў).

Местачкоўцам таксама былі нададзены каля Малога Карашава 8 сенажатных моргаў з аплатай па 2 грошы за морг. Войт Павел Казейка, паводле прывілею Уладзіслава IV, трымаў над рэчкай Пырай 11 моргаў з аплатай па 2 грошы за морг. Сума ўсіх падаткаў і выплатаў з мястэчка Скідзель складала 480 коп 35 грошаў у год (28 835 грошаў). Гэтыя падаткі скідзельскі войт павінен быў аддаваць да двара, дзе знаходзіўся каралеўскі адміністратар, за што яму належала 14 грошаў ад мяшчан.

Пасля заснавання мястэчка Скідзель дворнае ворыва зменшылася на траціну і складалася з 16 валок, якія былі падзелены на тры палеткі па 5 валок 10 моргаў, каб можна было весці трохпольны севазварот. Паколькі адзін палетак штогод пакідаўся пад парам, для апрацоўкі заставаліся 320 моргаў. На адну сялянскую валоку прыходзіліся $2^{1}/_{3}$ моргі дворнага ворыва. Да іх апрацоўкі прыцягваліся „bez uciążenia Poddanych”, як падкрэсліваў складальнік інвентара, 90, $^{1}/_{2}$ і $^{1}/_{8}$ сялянскіх валок, апрача 47, $^{1}/_{2}$ і $^{1}/_{3}$, ад якіх належала двару штотыднёвая двухдзённая паншчына: „(...) oprócz włók 47 $^{1}/_{2}$ $^{1}/_{3}$ które w każdy tydzień po dwa dni roboty odprawować we dworze skidelskim powinni”[51]. Такім чынам, можна зрабіць выс-

[51] Там жа, арк. 54 адв.

нову, што апрацоўку дворнага ворыва планавалася ажыццяўляць выключна коштам працы з асадных валок, а двухдзённую паншчыну накіроўваць на іншыя патрэбы дворнай гаспадаркі. Жылыя і гаспадарчыя пабудовы двара займалі 4 моргі 22 прэнты.

Адпрацовачныя павіннасці агароднікаў скідзельскага двара ў параўнанні з 1558 г. узраслі з двух да трох дзён у тыдзень: „(...) w każdy tydzień pieszo po iednemu chodzić po trzy dni we dworze zarobić”[52]. Праўда, у 1650 г. засталося ўсяго 15 служэбных агародаў з 24. У выніку агульная сума адпрацовачных дзён з вёскі Агароднікі зменшылася з 48 да 45 у параўнанні з 1558 г. У інвентары 1650 г. нічога не гаварылася пра 6 жаночых адпрацовачных дзён у летнюю пару, якія прадугледжваў інвентар 1558 г. Змяншэнне колькасці агароднікаў больш чым на траціну можна патлумачыць тым, што яны, напэўна, імкнуліся перайсці ў разрад звычайных цяглых ці асадных сялян.

На чынш са службы былі пераведзеныя і служкі, якія жылі побач з агароднікамі, паколькі „mniej na ten czas do tey posługi potrzeba była”[53]. Цяпер яны павінны былі плаціць па 4 капы грошаў (240 грошаў) з валокі. Выходзіла ў суме 16 коп з 4 валок. Служкі трымалі млын на рацэ Скідлянцы, за які плата 12 коп грошаў уваходзіла ў склад арэнды мястэчка Скідзель. Жыхары мястэчка і воласці абавязваліся вазіць збожжа і солад толькі да гэтага млына: „Postanawiamy aby tak z miasta Skidla iako z włości poddani J.K.M. nigdzie indziej iedno do tego młyna ze zbożem y słodami iezdzili. Pod utratą zboża albo słodu jeżeliby gdzie indziey kto ieździć miał. Czego ma urząd skidelski przestrzegać y młynarzom w czynieniu i w dochodzeniu sprawiedliwości ma być pomocny. Młynarz też ma y powinien mieć naprawę swego młyna dobrą (...) y w braniu miarek według zwyczaju dawnego bez obciążenia ludzkiego ma się zachować”[54].

Да Скідзельскай воласці ў 1650 г. належалі вёскі Канюхі, Карашава, Падлессе або Гніляны, Сухаўляны або Сухі Скідзель, Бірулічы, Пярэдняя Пыра, Каўшова або Капачова, Пузава, Некрашы, Малое Карашава, Вялікае Карашава ці Белякоўшчына. Памеры і змест павіннасцей у гэтых вёсках маглі даволі істотна розніцца. Напрыклад, сяляне вёскі Канюхі паводле інвентара 1650 г. за 15 валок ворнай зямлі павінны былі плаціць 45 коп грошаў, ці па 3 капы (180 грошаў) за валоку. Апроч таго, канюхоўцы абавязваліся ў часе жніва адпрацаваць двару з кожнай валокі па тры пешых дні, а таксама „łąki na starodawnych swych dzielnicach (...) w końcu Puzowickich gruntów kosić i siano sprzątać powinni”[55].

[52] Там жа, арк. 56.
[53] Там жа, арк. 56 адв
[54] Там жа, арк. 59.
[55] Там жа, арк. 59 адв.

Ад усіх іншых павіннасцей жыхары гэтай вёскі вызваляліся на моцы прывілею Уладзіслава IV ад 1633 г.: „A od innych robot y Dziakła także od podwód straży y od dawania dziakła według listu (...) Władysława Czwartego (...) w Grodnie dnia pierwszego miesiąca czerwca Roku 1633 wydanego wolni mają zostawać”[56]. У дакуменце нічога не гаварылася пра прычыны надання такога прывілею. За сенажаць плошчай 33 моргі, нададзеную ім у часе валочнай памеры, канюхоўцы не мусілі нічога плаціць, паколькі на той час гэтую сенажаць трымала ўжо нейкая пані Закрэўская, але пра дэталі гэтай перамены ў дакуменце таксама нічога не гаварылася.

Жыхары вёскі Белякоўшчына (Вялікае Карашава) трымалі „на асадзе” 11 валок, а 15 апусцелых валок было перададзена мяшчанам Скідзеля. За свае валокі белякоўцы плацілі па 2 капы (120 грошаў), а ад дзякла вызваляліся: „(...) którego dla złych gruntów dawać nie mogły y do zubożenia przyszli”[57]. Адпрацовачныя павіннасці белякоўцаў інвентар 1650 г. апісваў наступным чынам: „Przytem do orania Pasznie dworney wychodzić powinni do koszenia łąk sprzątania siana na starodawnych dzielnicach zarabiać mają. A nad to od inszych robot podwód straży wyrębow y oddawania dziakła wolni zostawać mają”[58]. Такім чынам, з адпрацовачных павіннасцей яны выконвалі толькі гвалты ці згоны, але дакладная колькасць дзён у дакуменце не агаворвалася. Даволі ільготныя ўмовы для белякоўцаў можна патлумачыць тым, што большасць вяскоўцаў пакінула свае надзелы і разбеглася, пратэстуючы такім шляхам супраць завышаных павіннасцей.

За вёскай Гліняны лічылася, як і ў 1558 г., 36 валок ворнай зямлі[59]. Прычым $3\,^{2}/_{3}$ валокі ў гэтай вёсцы трымаў войт Павел Казейка. Адна была службовая, г.зн. вольная ад павіннасцей, а за астатнія ён плаціў па 100 грошаў чыншу, што ў суме складала 2 капы $46\,^{2}/_{3}$ гроша. У карыстанні самых гнілянцаў заставаліся $23\,^{3}/_{4}$ валокі. Яны амаль напалову былі падзеленыя на цяглыя (12 валок) і чыншовыя ($11\,^{3}/_{4}$). За цяглыя валокі належаў чынш па 35 грошаў, па бочцы дзякольнага аўса, воз сена альбо замест яго 36 грошаў, даніны 20 грошаў. Такім чынам, грашовыя выплаты з цяглай валокі маглі складаць ад 55 да 91 гроша. Адпрацовачныя ж павіннасці гнілянцаў з цяглай валокі інвентар апісваў так: „Przytem roboty tygodniowey na pasznie folwarkową dla zasadzenia miasteczka Skidla jest zmiejszona. Tedy miasto trzech dni które Przedtym robili teraz po dwa dni w każdy tydzień z czym rozkazą robić powinni.

[56] Там жа.
[57] Там жа, арк. 60.
[58] Там жа.
[59] Там жа, арк. 60 адв.

Na wyręby do Puszcze raz w Rok w Jesieni albo na Wiosnę wychodzić y Płyty zpuszczać żyto do spława niedaley tylko do Grodna odwozić w podwody pobliższe to iest do folwarka w tey Oekonomii będących iezdzić. Strażą (...) po tygodniu z włoki tych tylko włok ciahłych do Dworu Skidelskiego odprawowywać mają. A gdy na straży w którym tygodniu z którey włoki będzie, ten na ten czas do (...) [у тэксце тут неразборліва, але можна зразумець, што ў часе старажоўства гаспадар мусіць быць вольны ад паншчыны — С.Т.] wolen ma być”[60]. З гэтага фрагменту тэксту інвентара можна зразумець, што напярэдадні яго складання глінянскія сяляне выконвалі ўжо тры дні паншчыны на тыдзень з адной цяглай валокі. Калі і з якіх прычын адбылося такое падвышэнне паншчыны, інфармацыі ў нас няма. Але пасля перадачы часткі дворнага ворыва пад новаўтворанае мястэчка з 1560 г. паншчына зноў змяншалася да двух дзён з цяглай валокі. У суме ж атрымліваўся 24 дні ў тыдзень з усёй вёскі, ці ў амаль у тры разы меней, чым у 1558 г.

У інвентары 1650 г. адзначаліся новыя віды адпрацовак: хадзіць на „вырубы” ў пушчу восенню ці вясной і спускаць плыты па Котры, а таксама адвозіць у Горадна да сплаву жыта (напэўна, меўся на ўвазе сплаў па Нёмане да Круляўца). Не зусім зразумела з тэксту інвентара, ці гэтыя работы ўключаліся ў склад штотыднёвай паншчыны, ці з’яўляліся дадатковымі. Зафіксаваная ў інвентары агаворка, што сяляне не далей Горадна павінны вазіць збожжа, адлюстроўвала, на нашу думку, іх барацьбу супраць падвышэння павіннасцей. Доўгія падарожжы на шмат дзён адрывалі селяніна ад сваёй гаспадаркі, нішчылі яго каня, воз і збрую, ды і проста былі небяспечныя для жыцця і здароўя.

З чыншовых валок глінянскія сяляне павінны былі плаціць па 100 грошаў. Апроч чыншу з гэтых валок належалі і адпрацовачныя павіннасці: „Przytem morgi pasznie dworney orać y żąć łąki na starodawnych dzielnicach kosić z wespół z ciahłemi Poddanemi siano sprzątać. Most zaś na Rzece Kotrze przy karczmie z którey arenda do skarbu należy wespół ze wszystką włością Skidelską naprawować z gwałtu y budować gdy tego potrzeba powinni będą”[61]. На час складання інвентара 6, $^1/_3$ і $^1/_4$ валок у Глінянах былі пустымі. Але на 1651 г. сяляне абавязваліся іх прыняць для апрацоўкі і плаціць па 100 грошаў, як за звычайныя чыншовыя валокі, што павялічвала выплаты з вёскі на 10 коп 58 грошаў 8 пенязяў.

У вёсцы Сухаўляны налічваліся 28 валок. Скідзельскі цівун[62] Базыль

[60] Там жа

[61] Там жа, арк. 60 адв.

[62] Цівун — службовая асоба дворнай адміністрацыі, галоўным абавязкам якога быў нагляд за работамі сялян у дворным маёнтку, выкананне распараджэнняў намесніка-дзяржаўцы.

Аніська трымаў на чыншу $^{2}/_{3}$ валокі, „z których względem posług dwornych on sam y Potomkowie jego płacić maią za wszystkie powinności kop 1.40 [1 капу 40 грошаў — С. Т.]”[63]. У непасрэдным карыстанні сухаўлянцаў было 8 $^{1}/_{3}$ і $^{1}/_{4}$ цяглых валок і 10 $^{1}/_{6}$ чыншовых. За цяглыя валокі належаў чынш па 30 грошаў, па бочцы дзякольнага аўса, воз сена альбо 36 грошаў, 20 грошаў даніны. З чыншовых валок належала плаціць па 2 капы (120 грошаў). Адпрацовачныя павіннасці былі такія ж, як у Гнілянах. Асобна ў інвентары былі пазначаныя чыншовыя 1 $^{1}/_{4}$ валокі, якія трымалі Ярома Бартнік і Мацей Сушло і плацілі за гэта 2 капы 30 грошаў. Пустых валок налічвалася 7 $^{1}/_{3}$ $^{1}/_{8}$, якія падданыя гэтай вёскі абавязваліся прыняць на 1651 г. і плаціць па 2 капы за кожную. Гэта павышала грашовыя выплаты сухаўлянцаў на 855 грошаў, ці болей чым на траціну. За 28 сенажатных моргаў сухаўлянцы плацілі па 3 грошы. Асобна трымаў сенажатны морг ва ўрочышчы Багно вышэйзгаданы цівун Базыль Аніська.

За вёскай Некрашы лічылася 16 валок. Нехта Лявон Шыйка трымаў $^{1}/_{6}$ валокі і плаціў за ўсе павіннасці 50 грошаў. Можна падлічыць, што за цэлую волоку плата складала б 300 грошаў, альбо 5 коп. А з астатніх 15 $^{21}/_{36}$ валокі некрашоўцам належала плаціць па 90 грошаў, даваць па 2 бочкі дзякольнага аўса і па 20 грошаў даніны. Адпрацовачныя ж павіннасці ў Некрашах былі падзеленыя такім чынам: з 7 $^{3}/_{4}$ $^{1}/_{6}$ валок кожны тыдзень па тры дні „z czym rozkażą odprawować powinni w podwody pobliższe do folwarków w Oekonomiey bedących iezdzić a do Królewieckich Wilenskich y Warszawskich wolni być maią. Żyto do spławu wszyscy wywozić powinni”[64]. А з іншых 7 $^{3}/_{4}$ $^{1}/_{6}$ валок ад выканання штотыднёвай паншчыны былі вольныя, але абавязваліся моргі дворнага ворыва араць, лугі касіць і ўпарадкаваць, варту па чарзе ў двары адбываць і на вырубы ў пушчы хадзіць. І, нарэшце, усе разам з 15 $^{3}/_{4}$ $^{1}/_{6}$ валок некрашоўцы абавязваліся рамантаваць масты на рацэ Котры і, калі будзе патрэба, новы будаваць. Пры дворным ворыве некрашоўцы трымалі засценак, за які ўсёй вёскай плацілі 2 капы. Такім чынам, адносна Некрашоў цяжка нават весці гаворкі пра традыцыйны падзел на цяглыя і чыншавыя (асадныя) валокі.

Самы вялікі зямельны надзел у Скідзельскім ключы належаў да грамады вёскі Пузева ці Пузавічы — 53 валокі. З іх ліку чатыры валокі былі вольныя ад аплаты — адна для войта, адна для дворнага цесляра і дзве на царкву. Цяглых валок налічвалася 14 $^{1}/_{4}$ $^{1}/_{6}$, за якія належаў чынш па 35 грошаў і па 2 бочкі дзякольнага аўса. Адпрацовачныя па-

[63] НГАБ у Мінску, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 61.

[64] Там жа, арк. 61 адв.

віннасці сялян гэтай вёскі апісваліся ў інвентары даволі падрабязна: „A roboty w każdy tydzień po dwa dni z włoki do dworu skidelskiego robić powinni z czym rozkażą straż koleją po tygodniu z włoki (...) na wyręby raz w roku w jesieni albo na wiosnę z włoki chodzić y płyty spuszczać żyto do spławu nie daley tylko do Grodna odwozić w podwody pobliższe to iest do folwarków w Oekonomii będących iezdzić. A od dalekich podwód jako to Wileńskich Warszawskich y Króleweckich wolni zostawać maią”[65].

Чыншовых валок у Пузавічах налічвалася 30 $^1/_3$ $^1/_8$, за якія яны абавязваліся плаціць па 2 капы (120 грошаў), і апроч таго „morgi pasznie dworney orać straż koley wespół z ciahłymi łąki kosić y na starodawnych dzielnicach y siano z nich sprzątać most ze wszystką włością na Rzece Kotrze budować y naprawiać z gwałtu powinni”[66]. Таксама вяскоўцы абавязваліся прыняць у склад чыншавых яшчэ $^3/_8$ часткі пустой валокі і плаціць за яе 45 грошаў. Ва ўрочышы Забародзішчы жыхары Пузавічаў трымалі 52 сенажатныя моргі з аплатай па 1 грошу. Апроч таго, ва ўрочышчы Старына яны прынялі яшчэ 130 сенажатных моргаў з аплатай 2 капы за ўсе гэтыя моргі.

Самай аддаленай ад скідзельскага двара была вёска Каўшова (Капачова), размешчаная на беразе Нёмана. Да яе, паводле валочнай памеры 1558 г., належалі 44 валокі. Але больш за палову з гэтых валок — 28, трымаў у 1650 г. кухмістр Вялікага Княства Літоўскага Мікалай Півоўскі „według dawnych praw y przywileiuw” і плаціў дзяржаўнаму скарбу ўсяго па 1 капе з валокі[67]. Ён жа трымаў 56 сенажатных моргаў. Можна меркаваць, што гэтыя валокі ён апрацоўваў з дапамогай тых жа жыхароў Каўшова. Таксама пан Ян Русіноўскі (магчыма нашчадак былога скідзельскага войта Міхала Русіна) на моцы каралеўскага прывілею і за лістамі ранейшых рэвізораў ад 19 жніўня 1639 г. трымаў 2 валокі, за якія плаціў па 2 капы.

Асадных валок у Каўшове было 7 $^1/_4$, за якія належала плаціць па дзве капы грошаў, апроч таго араць моргі дворнага ворыва, касіць лугі і ўпарадкаваць сена, на вырубы раз у год увосень ці на весну хадзіць. А ад штотыднёвай паншчыны каўшоўцы былі вольныя. Чыншовых валок налічвалася 5 $^3/_4$. За гэтыя валокі, паводле інвентара, патрэбна было толькі плаціць па 2 капы за валоку. Падобны падзел на асадныя і чыншовыя валокі больш нідзе ў вёсках ключа не сустракаецца. Магчыма, гэтая блытаніна з тэрміналогіяй адлюстроўвала змены ў сістэме сялянскіх павіннасцей, пошук дворнай адміністрацыяй новых падыходаў і, адпаведна, тэрмінаў. У Старыне ва ўрочышчы Міхнова жыхары гэтай

[65] Там жа, арк. 63 адв.
[66] Там жа.
[67] Там жа, арк. 63.

вёскі трымалі 32 сенажатныя моргі і плацілі па грошу за морг.

Да маленькай вёскі Пярэдняя Пыра належала ўсяго 6 валок, ды і з тых 2 валокі „według Przywileiu S.Pamieci K.J.Msci Stephana w roku 1584 mca Decembra 2 dnia" трымала шляхта[68]. У дакуменце не ўдакладнялася, хто менавіта і за якія заслугі атрымаў гэтыя землі ад Стэфана Баторыя. Сяляне трымалі астатнія чатыры валокі і плацілі за іх чынш па 3 капы за валоку (180 грошаў), а апроч таго абавязваліся разам з іншымі падданымі воласці мост на Котры рамантаваць і, калі будзе патрэба, новы будаваць. Ад іншых работ і натуральных павіннасцей яны былі вольныя.

Вёсцы Бірулічы належалі 14 ворных валок. З $4\,^{1}/_{2}$ цяглых належала плаціць па 35 грошаў, даваць па 2 бочкі дзякольнага аўса і 20 грошаў даніны. А работы вызначаліся такія самыя як у вёсцы Гніляны (Падлессе). Чыншовых валок было $8\,^{1}/_{2}\,^{1}/_{8}$, з якіх належала плаціць па 2 капы грошаў і адпрацоўкі, такія ж, як у Гнілянах. На 1651 г. вёска абавязвался прыняць $3\,^{3}/_{4}\,^{1}/_{8}$ пустых валок, за якія патрэбна было плаціць па две капы[69]. Над рэчкай Пырай жыхары Бірулічаў трымалі 31 сенажатны морг з аплатай па грошу за морг.

У вёсцы Мазанава налічвалася 11 валок. За ўсе гэтыя валокі сяляне абавязваліся плаціць па 2 капы, а таксама араць дворнае ворыва. З паловы сваіх валок ($5\,^{1}/_{2}$) мазанаўцы абавязваліся касіць лугі, упарадкаваць сена, малаціць жыта і адвозіць яго да двара, а таксама адбываць штотыднёвую варту пры двары. З другой жа паловы грунтаў ніякіх работ ад іх не патрабавалася. У Старыне яны трымалі 11 моргаў сенажаці і плацілі па 2 грошы за морг[70].

Да вёскі Малое Карашава, як і ў 1558 г., належала 20 валок зямі. З іх 4 валокі трымалі асочнікі Азёрскага і Салацкага лясніцтваў і выконвалі за гэта асочніцкую павіннасць па ахове каралеўскіх пушчаў. Яшчэ 4 валокі яны прынялі з умовай аплаты чыншу па 90 грошаў за валоку. Астатнія ж 12 валок былі перададзеныя мястэчку Скідзелю. Гэтыя асочнікі сядзелі сваімі сядзібамі на асобных 11 моргах, за якія плацілі па 6 грошаў[71].

Такім чынам, паводле дадзеных інвентара 1650 г. сяляне Скідзельскага ключа за свае землі павінны былі плаціць у 1651 г. 456 коп 58 грошаў (27 418 грошаў), давалі каля 90 бочак аўса, і адпрацоўвалі 148 паншчынных дзён у тыдзень, з якіх 45 пешых дзён прыходзілася на агароднікаў (табліца 2). Калі параўнаць з 1558 г., дык можна сцвер-

[68] Там жа, арк. 62 адв.

[69] Там жа, арк. 62.

[70] Там жа.

[71] Там жа, арк. 64 адв.

дзіць, што сума грашовых выплатаў узрасла прыкладна ў 2,6 раза. Гэты рост, на нашу думку, перш за ўсё трэба тлумачыць працэсамі інфляцыі, якія набіралі ход у першай палове XVII ст. Так, грашовы эквівалент даніны (гуска, дзве курыцы і 20 яек) у параўнанні з 1558 г. вырас з 6 да 20 грошаў, а кошт воза сена — з 5 да 36 грошаў. Натуральныя і адпрацовачныя павіннасці, разам з тым, у суме зменшыліся ў параўнанні з 1558 г. Можна меркаваць, што сяляне супраціўляліся ўвядзенню найбольш цяжкіх іх формаў — перавозцы грузаў на вялікія адлегласці. Напэўна, каралеўская адміністрацыя на той момант расчаравалася ў эфектыўнасці фальварачнай гаспадаркі, арыентаванай на далёкія рынкі і шукала альтэрнатыўныя крыніцы прыбыткаў. Гэтым можна патлумачыць заснаванне мястэчка за кошт скарачэння дворнага ворыва.

***Табліца 2***
**Павіннасці сялян Скідзельскай воласці ў 1558 і 1650 гг.**

| Вёска | Грашовыя выплаты (у літоўскіх грошах) | | Натуральныя павіннасці (дзякла – у бочках аўса) | | Адпрацовачныя павіннасці (тыднёвая паншчына) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1558 г. | 1650 г. | 1560 г. | 1650 г. | 1560 г. | 1650 г. |
| Агароднікі | 40,8 | 432 | - | - | 48 (пешых дзён) | 45 (пешых дзён) |
| Белякоўшчына | 598,1 | 1441 | 22 | - | 44 | - |
| Бірулічы | 648,8 | 1778 | 28 | 9 | 28 | 9 |
| Гніляны | 978,4 | 3444 | 68 | 12 | 68 | 24 |
| Канюхі | 949 | 2709 | 13 | - | - | - |
| Карашава Малое | 84 | 426 | - | - | - | - |
| Каўшова (Капачова) | 1412 | 3568 | 78 | - | 78 | - |
| Мазанава | 275 | 1342 | 22 | - | 22 | |
| Некрашы | 564 | 1908 | 32 | 31 ⅔ | 28 | 24 |
| Пярэдняя Пыра | 311,8 | 815 | 12 | - | 12 | - |
| Пузава | 4015 | 5440 | 102 | 28 ½ | - | 29 |
| Сухаўляны | 605,5 | 3155 | 28 | 8 7/12 | 56 | 17 |
| Служкі | 13,6 | 960 | - | - | - | - |
| **Разам** | **10 496** | **27 418** | **405** | **89 ¾** | **384 (з іх 48 пешай)** | **148 (з іх 45 пешай)** |

**Крыніцы:** *Писцовая книга Гродненской экономии, изданная Виленскою коммисией для разбора Древних актов*, т. 2, Вильно 1882; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі у Мінску (далей: НГАБ у Мінску), ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 59 адв. — 64 адв.

З 273 ворных валок сялянскай зямлі ў 1650 г. амаль 47,5 валокі (17,4%) былі цяглымі, г.зн. асноўнай павіннасцю за карыстанне імі выступала паншчына. За большасць валок — амаль 140 (51,3%) — сяляне плацілі чынш. Пустых валок было блізка 50 (каля 18,3%). У карыстанні шляхты знаходзілася 30 валок у вёсцы Каўшова. Дзве валокі былі ў карыстанні Скідзельскай царквы, а пяць лічыліся служэбнымі — яны даваліся службовым асобам (войт, цівун) і былі вольныя ад падаткаў.

Але ў рэчаіснасці, як мне ўяўляецца, падзел на цяглыя і чыншавыя валокі з'яўляўся на той час ужо ўмоўным. У выніку нейкіх перамоў з вясковай грамадой дворная адміністрацыя ўстанаўлівала пэўны аб'ём адпрацовачных павіннасцей і грашовых выплатаў, якія павінны былі выконваць сяляне гэтай вёскі. А ўжо пад гэты аб'ём павіннасцей падводзілася пэўная колькасць цяглых і асадных валок, каб абгрунтаваць яго.

Яшчэ адной крыніцай прыбыткаў каралеўскага двара ад Скідзельскай воласці ў 1650 г. з'яўлялася арэнда ад карчмы, што стаяла над рэчкай Котрай „na Gościńcu wielkim Ruskim", а дакладней — на дарозе паміж вёскай Пярэдняя Пыра і мястэчкам Скідзель. Разам з маставым зборам гэтая арэнда складала 40 коп грошаў у год[72], што, дарэчы, перавышала сумы грашовых выплатаў ад большасці вёсак Скідзельскай воласці. У інвентары няма звестак, хто ў той час быў арандатарам гэтай карчмы.

Ужо ў часе складання інвентара 1650 г. усходнія землі Рэчы Паспалітай былі ахопленыя вайной, да якой неўзабаве далучылася і Маскоўская дзяржава. Вайна прынесла на беларускія землі страшэнныя разбурэнні і вялізныя людскія страты, пра што шмат ужо напісана ў айчыннай і замежнай гістарыяграфіі[73]. У 1655-1657 гг. Горадна было занятае расійскімі войскамі. У 1657 г. горадам на кароткі час авалодалі шведы. Несумненна, што яго ваколіцы бязлітасна рабаваліся ў тыя гады. Праўда, нам амаль нічога невядома пра тое, што дакладна адбывалася ў Скідзельскім ключы, як ставіліся да гэтых бурлівых падзей мясцовыя жыхары. На жаль, мы не знайшлі інвентароў 1662 г. і 1670 г., пра якія згадваюць пазнейшыя дакументы. У інвентары 1679 г. сустракаецца згадка, што раней мястэчка „podspustoszało"[74], але без усялякіх тлумачэнняў прычын гэтага. У тэксце інвентара таксама не знаходзім ніякіх звестак пра сляды ваенных разбурэнняў на Скідзельшчыне. Зрэшты, ускосным доказам можа паслужыць якраз тое, што большасць дворных будынкаў у інвентары акрэсленыя як новазбудаваныя. Верагодна, што ў 1679 г. Скідзельскі ключ ужо залячыў раны вайны.

У 1679 г. у мястэчку Скідзель налічвалася 31 $^1/_4$ аседлых пляцаў на Рынку, Гарадзенскай, Азёрскай і Віленскай вуліцах, за якія мяшчане павінны былі плаціць па 15 грошаў за пляц. На гэтых пляцах налічва-

72 Там жа.

73 А. М. Карпачев, П. Г. Козловский, *Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII — XVIII в.*, [в:] *Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы*, Ленинград 1972, с. 81-94; Г. Сагановіч, *Невядомая вайна. 1654-1667*, Мінск 1995; J. Morzy, *Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w drugiej połowie XVII wieku*, Poznań 1965.

74 Ossolineum. Nr 5620/II (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г.), s. 248.

ліся 72 двары. З іх па 2 двары належалі арандатару Ізаковічу і святару Германовічу, а астатнія 68 — скідзельскім мяшчанам Таксама на пяці вуліцах — Гарадзенскай, Азёрскай, Віленскай, Луненскай і Індурскай — налічвалася 28 $^1/_3$ чыншавых пляцаў з такой жа аплатай. Паводле рэвізіі 1650 г. 13 $^1/_3$ $^1/_4$ пляцаў было вымераных на Наваградскай вуліцы, але, як адзначыў аўтар рэвізіі 1679 г.: „te placy zaginęły o których y mieszczanie nie wiedzą y powiadaią że tych placów nie mieli w dzierżeniu ale iakoby przy Ogrodnikach miały zostawać dla tego się w prowent nie szacuią”[75]. Можна меркаваць, што значная частка вымераных у 1650 г. мястэчковых пляцаў так і не была заселеная, і тая ж Навагродская вуліца ўвогуле не паўстала, так як не былі заснаваныя шпіталь і школа, запланаваныя стваральнікамі мястэчка ў 1650 г. На мястэчковым Рынку знаходзілася драўляная ўніяцкая царква: „Cerkiew iest Uniacka Religii Greckiey kosztem uczciwego Pawła Kozeyki woyta włości Skidelskiey wystawiona (...)”[76]. Святару гэтай царквы Германовічу належалі два пляцы на Гарадзенскай і Азёрскай вуліцах. Усе аплаты паводле інвентара 1679 г. налічваліся ўжо ў злотых, а не ў копах. Польскі злоты складаўся з 30 польскіх грошаў і 24 літоўскіх. Гэта трэба ўлічваць пры параўнанні з дадзенымі ранейшых інвентароў. Усяго ж за мястэчковыя пляцы скарбу належаў чынш у суме 37 злотых 5 грошаў.

Ад мяшчан Скідзеля двару таксама належала плата за 202 мяшчанскія моргі. У тэксце рэвізіі адзначалася, што раней яны плацілі па 2 злотых з кожнага морга, але „że to miasteczko podspustoszało tedy przeszłe Commisie dla ubóstwa ustąpili im tego czynszu tak że tylko dawali z każdego morga po gr 24. Teraz że się to miasteczko iusz zapomogło y żadnego wpuście nie masz za rzecz słuszną uznaliśmy aby się wrócić do dawnego postanowienia”[77]. Цяпер скідзельскім мяшчанам патрэбна было плаціць па 2 злотых з морга, ці ў суме 404 злотых. З моргавых грунтаў, „iako z dawna bywaią”, таксама належала дзесяціна да Гарадзенскага фарнага касцёла.

У Скідзелі, паводле рэвізіі, налічвалася 13 рамеснікаў: 2 рэзнікі, каваль, 2 шаўцы, гарбар, кравец, 6 пякарак. Кожны з рамеснікаў плаціў двару па 6 грошаў. Па столькі ж належала ад трох „пустых” (напэўна, на той час не функцыянавалі) корчмаў і 12 грошаў ад гарэлачнай карчмы (астатнія, як можна меркаваць, з’яўляліся піўнымі).

Ва ўрочышчы Храпава скідлянам, паводле рэвізіі 1650 г., належалі 24 ворныя валокі. У інвентары 1679 г. адзначалася, што з гэтых валок 12 надаваліся мястэчку з платай па 5 злотых за валоку, а 12 — з платай

[75] Там жа, с. 247-248.
[76] Там жа, с. 243-244.
[77] Там жа, с. 248-249.

па 2,5 злотага, што ў суме складала 90 злотых. Праўда, з гэтых храпаўскіх валок адна надавалася войту без аплаты. Таксама скідляне трымалі 12 валок у вёсцы Малое Карашава, за якія плацілі па 2,5 злотага. А 14 ворных валок каля вёскі Белякоўшчына (Вялікае Карашава), якія ў 1650 г. былі нададзены скідзельскім мяшчанам, цяпер ізноў перадаваліся сялянам гэтай вёскі. Такім чынам, апроч местачковых пляцаў, у суме жыхарам Скідзеля належала 30,5 ворнай валокі, ці ў сярэднім 0,45 валокі на адзін двор. Апроч таго мястэчку перадавалася трэцяя частка дворнага ворыва (паводле нашых падлікаў 5 валок 10 моргаў), за якую ад іх належала плата 100 злотых. Таксама мястэчку належаў выган ля Астрынскага гасцінца, за які местачкоўцы плацілі 8 злотых. Ад жыхароў мястэчка належала двару пазямельных выплатаў 641 злоты. У разліку на адзін мяшчанскі двор выходзіла ў сярэднім амаль 9,4 злотага.

За мястэчкам лічыліся землі, якія трымаў сын былога войта Кандрат Казейка. Яму належалі 4 $^{2}/_{3}$ ворныя валокі ў Глінянах, з якіх за 1 $^{2}/_{3}$ Казейка плаціў чынш па 18 злотых, за 2 валокі — па 9 злотых, а чацвёртую валоку — на трэці палетак. Таксама Кандрат Казейка трымаў 16 сенажатных моргаў, за якія плаціў па 1 злотаму. З гэтых моргаў 8 знаходзіліся ў засценку над Катранскім мостам і 8 моргаў паміж шляхецкімі і каралеўскімі грунтамі. Такім чынам, усяго ў карыстанні Казейкі знаходзілася больш чым 5 валок зямлі. Прычым у інвентары не было інфармацыі, ці выконваў ён абавязкі скідзельскага войта, як яго бацька.

Да местачковай арэнды належала капшчызна ад кожнай варкі піва — літоўская капа (60 грошаў) па ўсёй Скідзельскай воласці, а таксама млын на Скідлянцы разам з прыдадзенымі яму грунтамі і ворнай валокай у Глінянах. Такім чынам, у інвентары выкарыстоўваліся і ранейшыя літоўскія адзінкі лічэння грошай. Грэблю ля млына павінна была рамантаваць уся воласць. Гэтая арэнда аддавалася жыду Шмойлу Ісаковічу і яго маці ўдаве Гуце за 900 польскіх злотых на тры гады, пачынаючы ад свята Яна 1679 г. да Яна 1682 г. Шмойла павінен быў плаціць арэндныя грошы дзвюма ратамі ў год па 450 злотых. Першая рата выплачвалася на пачатку каляндарнага года, а другая — на св. Яна. Да гэтай арэнды дадавалася карчма на Гарадзенскім гасцінцы каля моста праз рэчку Котру. Уся воласць павінна была пастаўляць вартавых „dla pilnowania mostu y odbierania mostowego”[78]. Пасля заканчэння трохгадовай арэнды, паводле дамовы, будынак карчмы пераходзіў ва ўласнасць Шмойлы Ісаковіча, а ў дадатак ён атрымліваў ва ўласнасць яшчэ вольны пляц у мястэчку, морг і агарод у вёсцы Агароднікі. Шмойла меў права шынкаваць толькі гарэлкай (гэта значыла, што варыць піва ці

[78] Там жа, с. 252.

медавуху яму забаранялася), апроч нядзеляў і святочных дзён. У кірмашовыя дні Шмойла павінен быў збіраць targовы падатак па два грошы ад быдла, ад рэзнікаў — лапатковы збор, ад выпечанага хлеба — па грошу, ад пары вырабленых ботаў — па шэлягу, ад бочкі солі — два грошы, ад бочкі збожжа — два грошы[79].

Агульная сума грашовых выплатаў з мястэчка складала суму 1638 злотых. Больш за палову прыходзілася на арэнду — 900 злотых (55%), на выплаты за местачковыя моргі — 404 (24,7%), за местачковыя пляцы — 37 (2,25%), за ворныя валокі і выган — 198 (12%), за рамеснікаў і корчмы — 3 злотых. Войт Казейка плаціў за ворыўныя валокі і сенажаці ў суме 64 злотых. Рэшту „prowentu" з мястэчка, напэўна, складалі так званыя паштовыя грошы, якія не павінны былі перавышаць 10 коп грошаў. У суме на мястэчка прыходзілася прыкладна чвэрць — 26,7% — ад агульнай сумы прыбыткаў каралеўскага скарбу ад Скідзельскага ключа — 6129 злотых[80]. Рэшта — болей 73% — прыходзілася на выплаты сялян.

Колькасць вёсак Скідзельскага ключа ў 1679 г. павялічылася за кошт далучэння Русінава, Рысак і Хвайнянаў і дасягнула 16 з 330 сялянскімі дварамі (адносна вёскі Малое Карашава не падавалася інфармацыя пра колькасць двароў). У Агародніках (6 двароў) засталіся толькі 4 $^1/_2$ аседлых агародаў, а 16 $^1/_4$ былі чыншовымі. Адзін агарод у гэтай вёсцы належаў да арэнды (знаходзіўся ў карыстанні Шмойлы Ісаковіча) і два да царкоўнага прычту. За астатнімі 15 вёскамі (315 двароў) лічыліся 320 валок ворнай зямлі, з іх 78 аседлых (24,4%) і 117 чыншовых (36,6%). Да ліку пустых і пясчыстых былі аднесеныя 67 валок (20,9%). У карыстанні шляхты знаходзіліся 40 $^1/_2$ валокі (13%). Служэбнікам (войт, цівун) надаваліся 7 валок, 3 знаходзіліся ў карыстанні царквы і 1 у арэндзе.

У тэксце рэвізіі 1679 г. утрымліваюцца звесткі пра павіннасці, якія перад гэтым адбывалі сяляне вёсак Пузавічы, Гліняны, Некрашы, Сухаўляны і Бірулічы (табліца 3). Можна меркаваць, што гэтыя павіннасці ўстанавіла рэвізія 1670 г., дакументы якой нам невядомыя. Сяляне названых вёсак адбывалі па тры дні паншчыны з аседлай валокі і давалі даніну: гуску, дзве курыцы і 20 яек. У інвентары нічога не гаварылася пра замену даніны грашовай выплатай. Памер аўсянага дзякла быў розным. Напрыклад, у Пузавічах сяляне давалі па дзве бочкі дзякольнага аўса з аседлай валокі, а ў Некрашах і Сухаўлянах — па адной. У Бірулічах і Глінянах, апроч бочкі аўса, належала аддаць двару яшчэ воз сена. З аседлых валок таксама належаў і грашовы чынш. Жыхары Пузавічаў плацілі па

[79] Там жа, с. 253.
[80] Там жа, с. 290.

1 злотаму 12 грошаў з валокі, Некрашоў — па 2 злотых 15 грошаў, сухаўлянцы — па 1 злотаму 7 грошаў 9 пенязяў, глінянцы — па 1 злотаму. Акрамя таго, з аседлых валок сяляне выконвалі наступныя павіннасці: адбывалі старажоўства ў двары калейкай па аднаму чалавеку на тыдзень, адвозілі жыта на сплаў да Горадна, хадзілі на вырубы да пушчы, сплаўлялі па Котры плыты, абраблялі дворнае ворыва „на сваіх дзялках", касілі дворную сенажаць і ездзілі ў „далёкія падводы".

З чыншовых валок сяляне Пузавічаў і Бірулічаў плацілі па 5 злотых, жыхары Глінянаў і Сухаўлянаў — па 4 злотых 5 грошаў. Апроч таго з гэтых валок належала павіннасць апрацоўкі дворнага ворыва, скошвання і ўпарадкавання сена на дворных сенажацях, направа моста на рацэ Котры. Як можна меркаваць на падставе параўнання дадзеных інвентароў 1650 і 1679 гг. адносна вышэйназваных чатырох вёсак Скідзельскага ключа, грашовыя выплаты сялян за амаль 30-гадовы адрэзак часу даволі істотна зменшыліся, зменшыўся таксама памер дзякла, а колькасць паншчынных дзён засталася прыкладна на тым жа ўзроўні, што і ў 1651 г. Напэўна, што прычынай такой палёгкі былі наступствы ваенных знішчэнняў. Агароднікі перад 1679 г. з кожнага аседлага агарода рабілі па два дні ў тыдзень у двары, з лістамі „бегалі", дворныя агароды засявалі і аплятаілі. З чыншовых агародаў яны давалі па 2 злотых 15 грошаў чыншу[81]. Адносна вёсак Белякоўшчына, Каўшова, Русінава, Рыскі, Пярэдняя Пыра, Хвайняны ў тэксце інвентара, на жаль, няма інфармацыі пра павіннасці, якія яны адбывалі непасрэдна перад рэвізіяй 1679 г.

*Табліца 3*

**Павіннасці сялян вёсак Бірулічы, Гніляны, Некрашы і Сухаўляны Скідзельскага ключа ў 1650 і 1679 гг.**

| Вёска | Грашовыя выплаты (у літоўскіх грошах) | | Натуральныя павіннасці | | Паншчына з вёскі (дзен у тыдзень) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1650 г. | 1679 г. | 1650 г. | 1679 г. | 1650 г. | 1679 г. |
| Бірулічы | 1668 | 1063 | 9 бочак аўса | 2 7/8 бочкі аўса, 2 7/8 вазоў сена, даніна з цяглых валок | 9 | 8,5 |
| Гніляны | 2785 | 1662 | 12 бочак аўса | 5 ¾ бочак аўса і 5 ¾ вазоў сена, 5 ¾ гусак, 11,5 кур, 115 яек. | 24 | 17,25 |
| Некрашы | 1908 | Няма звестак | 31 ⅔ бочак аўса | 7 19/24 бочак аўса і даніна | 24 | 23, 4 |
| Пузавічы | 5440 | 2568 | 28 ½ бочак аўса | 24 бочкі аўса, гусь, кур двое, яек 20 | 29 | 36,5 |
| Сухаўляны | 3155 | 1381 | 8 7/12 бочак аўса | 3,5 бочкі аўса, гусь, кур двое, 20 яец | 17 | 10,5 |

**Крыніцы:** НГАБ у Мінску, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 59 адв. — 64 адв.; Ossolineum, nr 5620/II (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г.), s. 255-289.

[81] Там жа, с. 287.

Рэвізоры ў 1679 г. увогуле зліквідавалі ў Скідзельскім ключы дворнае ворыва, якое было перададзена сялянам. Зрэшты, гэта ж было зроблена і адносна ўсіх астатніх вёсак Гарадзенскай эканоміі, як і ў іншых каралеўскіх эканоміях краіны. З 300 дворных ворыўных моргаў 100 забралі местачкоўцы, а астатнія 200 былі перададзеныя сялянам навакольных вёсак, за што ў суме належала двару плата 300 злотых. Адпаведна быў скасаваны і абавязак паншчыны і згонаў. Усе жыхары воласці пераводзіліся на грашовы чынш, які цяпер з'яўляўся аднолькавым як з былых аседлых валок, так і з чыншовых. Памер новага чыншу складаў у большасці вёсак па 20 злотых за валоку, а ў вёсцы Канюхі — 12 злотых. Гэта азначала шматразовае павелічэнне грашовых выплатаў сялянамі. Напрыклад, калі да рэвізіі сяляне вёскі Гліняны плацілі 2077,5 польскага гроша, дык паводле новых правілаў ім прыходзілася плаціць ужо 12 870 грошаў, ці ў 6 разоў болей. Усяго ж з 16 вёсак Скідзельскага ключа ў 1679 г. рэвізорамі была ўстаноўлена плата за карыстанне зямлёй 4471,5 злотага, што складала ў сярэднім амаль па 14 злотых з аднаго сялянскага двара (табліца 4).

***Табліца 4***

**Пазямельныя выплаты вёсак Скідзельскага ключа за 1679 г. (у злотых)**

| Вёска | За аседлыя валокі | За чыншовыя валокі | За засцянковыя землі | За пустыя і пясчыстыя землі | За дворнае ворыва | Застаўныя валокі | Разам | У сярэднім на двор |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Агароднікі | 22,5 | 88,5 | 29 | | | | 140 | 23,3 |
| Беляхоўшчына | 124 | 41 | 14 | 21 | 25 | | 225 | 8,3 |
| Бірулічы | 43 | 122 | 1 | 30 | 25 | | 221 | 15,8 |
| Гліняны | 103,5 | 274,5 | 26 | | 25 | | 429 | 14,8 |
| Канюхі | 43,5 | 136,5 | 2,5 | | | | 182,5 | 7,6 |
| Карашава М. | 21 | 24 | | | | | 45 | Н. зв. |
| Каўшова | 127,5 | 124,5 | 36,5 | | | 42 | 330,5 | 14,4 |
| Мазанава | 97,5 | 100,5 | | | | | 198 | 9 |
| Некрашы | 156 | 164 | 36,5 | | 50 | | 406,5 | 10,4 |
| Пузавічы | 243,5 | 356,5 | 40 | 40 | 50 | | 730 | 18,25 |
| Пыра | 55 | 25 | 54 | | | | 134 | 14,9 |
| Русінава | 192,5 | 7,5 | 28 | 24 | | 36 | 288 | 13,7 |
| Рыскі | 91,5 | 208,5 | | 14 | | 10 | 324 | 13 |
| Сухаўляны | 71 | 208,5 | 30 | 19,5 | 25 | | 354 | 17,7 |
| Хвайняны | 51 | 249 | | 24 | | | 324 | 18 |
| Хваты | 52,5 | 87,5 | | | | | 140 | 10,8 |
| **Разам** | **1495,5** | **2218** | **297,5** | **172,5** | **200** | **88** | **4471,5** | **13,55** |

**Крыніца**: Ossolineum, nr 5620/II (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г.), s. 255-289.

Паводле інвентара 1680 г. памеры выплатаў з некаторых вёсак былі зменшаныя (табліца 5). Так, у тых жа Глінянах за сенажатныя моргі вызначалася плата 15 грошаў замест 1 злотага за морг. У вёсцы Каўшова замест 18 злотых за ворную валоку чынш быў зменшаны да 16 зло-

тых. Нам невядома, што падштурхнула каралеўскіх адміністратараў на такі крок, магчыма, скаргі сялян на занадта высокі чынш. У параўнанні ж з інвентаром 1651 г. грашовыя выплаты сялян Скідзельскай воласці былі павышаныя ў тры разы. Але мы павінны ўлічваць працэсы імклівай інфляцыі, выкліканыя падзеямі вайны. Злоты і грош сталі ўжо толькі ўмоўнымі лічыльнымі адзінкамі, а ў рэальнасці ў грашовым звароце выкарыстоўваліся іншыя манеты — дукаты, орты, тынфы, соліды, шэлягі і г.д.

***Табліца 5***
**Грашовыя выплаты вёсак Скідзельскай воласці ў 1651 і 1680 гг. (у грошах літоўскіх)**

| **Вёска** | **1651 г. (у літоўскіх грошах)** | **1679 г. (у злотых/ у літоўскіх грошах)** | **1680 г. (у злотых/ у літоўскіх грошах)** | **У 1680 г. адносна 1651 г. (у %)** |
|---|---|---|---|---|
| Агароднікі | 432 | 134 /3216 | 134/3216 | 744 |
| Белякоўшчына | 1441 | 225/5400 | 237/5688 | 394,7 |
| Бірулічы | 1668 | 221/5304 | 220/5280 | 316,5 |
| Гніляны (Падлессе) | 3444 | 429/10296 | 416 /9984 | 289,9 |
| Канюхі | 2709 | 182,5/4380 | 182,5/2748 | 101,4 |
| Карашава Малое | 460 | 45/1080 | 45/1080 | 234,8 |
| Каўшова (Капачова) | 3658 | 330,5/7932 | 266/6384 | 174,5 |
| Мазанава | 1342 | 198/4752 | 176/4224 | 314,8 |
| Некрашы | 1908 | 406,5/9756 | 417/10010 | 524,6 |
| Пузава | 5440 | 730/17520 | 730/17520 | 322 |
| Пярэдняя Пыра | 815 | 134,5/3228 | 134,5/3228 | 396 |
| Сухаўляны | 3155 | 354,5/8508 | 329,5/7908 | 250,6 |
| Хваты | 960 | 140/3360 | 140/3360 | 350 |
| **Разам** | **27 432** | **3530,5 /84 732** | **3427,5/80 630** | **293,9** |

**Крыніца:** Ossolineum, nr 5620/II (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г.), s. 255-289; Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (далей: ДГАЛ), ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 70-80.

Аднак, апроч грашовых выплатаў, захаваліся ўсё ж і пэўныя адпрацовачныя павіннасці мясцовых сялян і мяшчан: „Dwór Skidelski Dzielnicami parkanić budynki oprawować one nakrywać y oprawować po dwu strożów do dworu posyłać a za drugich dwóch do arendy karczemney z całego klucza po 100 zł co rok dawać Młyny Groble y mosty szarwarkiem naprawować y gdyby tego potrzeba była nowe mosty budować a iesliby przez niedbalstwo wtychże stawach y Groblach stała się szkoda one skarbowi Skidliu nagradzać. Pod bytność zaś JKM w Grodnie na wszelaką usługę zamkową osobliwie drew z każdey włoki po dwa wozy y słomy po wozie iednym do zamku odwozić y straży koleią według potrzeby odprawować powinni będą Z osobna na Provisya P Podstarościego y innych Dozorców z każdey włoki osiadłey y czynszowey żyta garcy 12 owsa garcy 12 jęczmienia garcy 12 z włoki kurę z włok dwoch gęś iedne drew wóz ieden z włoki y z włok czterech siana wóz ieden i słomy wóz na cały Rok wydadzą spisnego po gr

3 na odwoz pieniędzy gr 3 na instygatora[82] Ekonomicznego gr 3 wydawać mają a iesliby się casus iaki stał na którego prawne poparcie znacznego by kosztu potrzeba było tedy na to cały klucz zawiadomością Dworu składać się będzie powinien a względem wypłacenia czynszu wszyscy za iednego a ieden za wszystkich wypłacać obowiązali się a zatym od wszystkich innych powinności y ciężarów wolnemi zostawać mają”[83]. Акрамя таго, падданыя ўсяго Скідзельскага ключа павінны былі абгарадзіць і апрацаваць агарод пана падстарасты, а „каморнікі” (тут упершыню намі сустракаецца дадзены тэрмін) яго аплясці і ўпарадкаваць, рыбакі, калі будуць лавіць рыбу (а паводле старадаўняга звычаю дазвалялася гэта рабіць толькі па серадах і пятніцах), дык павінны аддаваць частку ўлову[84]. Абавязкам жыхароў воласці таксама было з лістамі на пяхоту ці конна „бегаць”, прычым агаворвалася, што падстарасты і войты не павінны былі пад пагрозай страты сваёй пасады пасылаць сялян па сваіх прыватных справах альбо браць выкуп за вызваленне ад гэтай павіннасці: „Z listami w sprawach tylko Ekonomicznych a nie żadnemi prywatnemi gdzie kiedy tego potrzeba ukaże konno lub pieszo koleią z całey włości biegać bedą A PP Podstarostowie ani Woytowie żadnego okupu od takich posyłek z listami brać nie mają pod utraceniem urzędu gdyby się na którego pokazać miało czego Jm Pan Ekonom por munere Suo doirzeć y przestrzegać y skarać (...) powinien będzie”[85]. Такім чынам, нягледзячы на скасаванне паншчыны, спіс працоўных абавязкаў жыхароў Скідзельшчыны адносна двара заставаўся даволі шырокім і пакідаў прастору для злоўжыванняў з боку дворнай адміністрацыі і войтаў. Агульная сума прыбыткаў скарбу ад Скідзельскага ключа паводле інвентара 1680 г. складала 5652 злотых[86].

Няма ў нас, на жаль, ніякай інфармацыі пра стаўленне жыхароў Скідзельшчыны да гэтага сапраўды радыкальнага пераўтварэння ў сістэме адбывання павіннасцей. У гістарычнай літаратуры, прысвечанай аграрнай праблематыцы, грашовыя павіннасці традыцыйна лічацца больш прагрэсіўнымі за адпрацовачныя. Апошнія звыкла атаясамляюцца з рэгрэсам і адсталасцю грамадства, з працэсамі рэфеадалізацыі зямель Усходняй Еўропы, якія вызначылі іх адставанне ад Заходняй Еўропы, дзе сялянства ў гэты перыяд пераважна плаціла чынш за свае надзелы, а паншчына захавалася і нават пашыралася пераважна на ўсход ад Эльбы. Беларускія аўтары звыкла тлумачаць перавод сялян на чынш імк-

[82] Інстыгатар — судовы ўраднік у каралеўскіх эканоміях.
[83] Ossolineum, nr 5620/II, s. 275.
[84] ДГАЛ, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 80.
[85] Ossolineum, nr 5620/II, s. 275.
[86] Там жа.

неннем улад даць магчымасць аднавіцца сялянскай гаспадарцы пасля ваенных разбурэнняў[87]. Найбольш падрабязна разглядае дадзенае пытанне львоўскі аўтар Дзмітрый Пахілевіч. Ён сцвярджае, што ўжо на пачатку XVII ст. дзяржаўная адміністрацыя спрабавала пераводзіць сялян з паншчыны на чынш, паколькі фальварачна-паншчынная сістэма выявіла свае недахопы. Яна патрабавала значных выдаткаў на кіраванне фальваркам, акрамя таго моцна залежала ад попыту на знешнім рынку[88]. Таму перавод сялян на чынш у многіх адносінах выглядаў больш стабільнай крыніцай прыбыткаў.

Але ўзнікае пытанне наколькі вызначаныя памеры выплатаў адпавядалі магчымасцям сялянскай гаспадаркі. Альбо, кажучы сучаснай мовай, ці былі, напрыклад, жыхары Скідзельшчыны плацежаздольнымі, бо зруйнаваць гаспадарку селяніна можна было і завышаным чыншам, а не толькі паншчынай. Адказу на гэтае пытанне ў крыніцах няма. І ўсё ж тэкст рэвізіі 1680 г. утрымлівае пэўную інфармацыю, што мясцовыя жыхары аддавалі перавагу грашовым выплатам перад адпрацоўкамі. Напрыклад, уся валасць паскардзілася рэвізорам на скідзельскага арандатара Шмойлу Ісаковіча і яго матку Гуту, што тыя абцяжарваюць працай вартаўнікоў, якія павінны былі пільнаваць мост праз Котру і збіраць маставы падатак. Таму рэвізоры пастанавілі, што замест пастаўкі двух вартаўнікоў уся валасць будзе плаціць жыду-арандатару 100 злотых за год: „A że cała włość skarżyła się na tego ż żyda Arendarza y matkę iego że stroże zwyczayną robotą obciążą tedy postanowiamy aby nie strożów ale pieniądze za strożów do rąk Arendarskich cała włość płaciła za iednego stroża 50, co czyni za dwóch każdego roku po stu”[89].

Мы не маем ніякай інфармацыі пра тое, як пераўтварэнні 1679-1680 гг. адбіліся на развіцці Скідзельшчыны, і як паўплываў пераход з паншчыны на чынш на стан сялянскай гаспадаркі. А на пачатку XVIII ст. новая навала пракацілася па ўсёй Беларусі. У часы падзей Паўночнай вайны арміі ваюючых дзяржаў бязлітасна нішчылі беларускія землі. Прычым Гарадзеншчына пацярпела асабліва моцна. У вуснай гістарычнай памяці скідлян, напрыклад, да XX ст. захаваліся паданні пра жорсткасць шведскіх жаўнераў, якія катавалі і забівалі безабаронных сялян.

Інвентар 1708 г. якраз адлюстраваў страты, нанесеныя Скідзельшчыне гэтай вайной[90]. Так, у мястэчку Скідзель, паводле інвентара 1679 г., налічвалася 31 $^{1}/_{4}$ аседлых пляцаў і 28 $^{1}/_{3}$ чыншавых (усяго 59 $^{7}/_{12}$), за якія

[87] *Гісторыя Беларусі: У 6 т.*, т. 3: *Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII - XVIII стст.)*, Мінск 2007, с. 130.
[88] Д. Л. Похилевич, *Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв...*, с. 112.
[89] Ossolineum, nr 5620/II, s. 253.
[90] ДГАЛ, SA, № 11 290, арк. 49-54.

мяшчане павінны былі плаціць па 15 грошаў за пляц. У інвентары ж 1708 г. пазначалася, што ў мястэчку налічваецца 80,5 пляца, з якіх 42 з'яўляліся зусім пустымі і парослымі пустазеллем — „cale pustych Piołunem porosłych", а толькі 35 $^1/_2$ былі засеянымі (меліся на ўвазе, як нам уяўляецца, агароды пры хатах мяшчан). Да царквы належалі 2 вольных ад падаткаў пляцаў, а адзін — ад арэнды. Прыкладна 13,5 пляца не ўлічваліся, паколькі іх не знайшла і камісія 1680 г. За засеяныя 35 $^1/_2$ пляца належала плаціць дзяржаўнаму скарбу па 15 грошаў, ці ў суме 17 злотых 22 грошы. У параўнанні з 1680 г. колькасць платных пляцаў зменшылася з 55,5 да 35,5, ці больш чым на траціну.

З ліку 151 местачковага морга, за якія мяшчанам паводле інвентара 1680 г. патрэбна было плаціць па 1 злотаму 15 грошаў за морг, у 1708 г. 16 было „pustych cale". За рэшту — 135 моргаў — трэба было плаціць чынш у суме 202 злотых 12 грошаў. З гэтых мяшчанскіх моргаў, як нагадваў інвентар, па-ранейшаму належала дзесяціна да фарнага касцёла ў Горадне. Былое дворнае ворыва (100 моргаў), аддадзенае каралеўскай камісіяй мястэчку ў 1679 г., як адзначылі рэвізоры 1708 г., ляжала адлогам („teraz ugorem leżą"). За гэтую зямлю быў прызначаны чынш па 1 злотаму за морг. З тых жа 200 моргаў дворнага ворыва, якія ў 1680 г. раздаваліся ваколічным вёскам, але ў выніку прынялі іх таксама скідзельскія мяшчане, на момант складання інвентара 1708 г. была засеяна толькі трэцяя частка: „ledwo trzecia część zasiana". У выніку было вызначана скідзельскім мяшчанам плаціць за гэтыя 200 моргаў толькі палову ад раней прызначанага чыншу — 100 злотых.

З 24 валок местачковай зямлі ў Храпаве большасць зямлі не апрацоўвалася: „Teraz kawałkami różnie pozasiewane, a kawałkami ugorem po większej części pusto leżą dwa poletki trzeci poletek cale zapadły w którym bardzo małe kawałki miejscami zarobione (...)"[91]. А 6 валок, адзначылі складальнікі інвентара, „cale pustych odłogiem leżą y bagnami"[92]. У выніку за 8 валок рэвізорамі была прызначаная плата па 5 злотых, а за 10 — па 2,5 злотага. Таксама мястэчка мела ў сваім карыстанні нададзеных „на апал" за возерам Купіскам 12 валок „подлых і зарослых". За выган пры Астрынскім гасцінцы скідляне агулам плацілі 9 злотых.

Па Кандраце Казейцы нехта Ганько (Hańko) „z uczestnikami" трымаў 4 $^2/_3$ валокі зямлі ў вёсцы Гліняны, з якіх належала з 1 $^2/_3$ валокі плаціць па 18 злотых, з двух па 9 злотых, што ў суме складала 48 злотых, а адну валоку яны трымалі без грашовай платы „на трэці палетак". Той жа Ганько трымаў па Казейцы і 16 сенажатных моргаў з аплатай па 1 злотаму за морг. Нам невядома, кім быў гэты Ганько (магчы-

[91] Там жа, арк. 49 адв.
[92] Там жа.

ма, Гайка, бо такое прозвішча пазней сустракаем сярод жыхароў вёскі Гліняны), які ўнаследаваў старую спадчыну былога войта Паўла Казейкі, фундатара Скідзельскай царквы. Можна меркаваць, што гэтыя землі перадаваліся ў спадчыну на вызначаных умовах аплаты, як пэўная цэласнасць, ужо незалежна ад выканання войтаўскіх абавязкаў.

У 1708 г. у Скідзелі налічвалася 10 рамеснікаў: два рэзнікі, каваль, два шаўцы, ганчар і чатыры пекары. Ад кожнага з іх належаў традыцыйны чынш у памеры 6 грошаў. Ад трох піўных і адной гарэлкавай карчмы таксама належала плата па 6 грошаў. Тут нічога не змянілася ў параўнанні з інвентаром 1679 г. Усяго ж ад мястэчка належаў чынш за зямлю і ад рамеснікаў у памеры 560 злотых (13,9% ад сумы ўсіх прыбыткаў скарбу ад ключа). У параўнанні з 1679 г. — 738 злотых — сума выплатаў зменшылася прыкладна на чвэрць.

Зменшылася ў параўнанні з 1679 г. і сума местачковай арэнды. У яе склад у 1708 г. уваходзілі шынок гарэлкавы ці кабак, капшчызна ад мястэчка і воласці, тарговы лапатковы збор, былая войтаўская валока ў Глінянах, мост праз рэчку Котру, з якога бралася маставое, а таксама карчма каля гэтага моста: „Ieden tylko szynk gorzałkowy alias kabak iest kapszczyzna od piw, targowe łopatkowe, włoka w Hlinianach, druha na czynszu, stróżów dwuch albo 100 zł z włości. Karczma u mostu y mostowe”[93]. У інвентары адзначалася, што ў „лепшыя гады” арэнда даходзіла і да сумы 900 злотых. Але на 1708 г. была вызначана сума 800 злотых (19,9% ад усёй сумы прыбыткаў скрабу ад Скідзельскага ключа)[94]. Усяго ж у 1708 г. дзяржаўны скарб павінен быў атрымаць ад Скідзельскага ключа 4038 злотых[95].

У склад Скідзельскага ключа ў 1708 г. уваходзілі 16 вёсак: Агароднікі, Белякоўшчына, Бірулічы, Гліняны, Канюхі, Карашава, Каўшова, Мазанава, Некрашы, Пярэдняя Пыра, Пузава, Рыскі, Русінава, Сухаўляны, Хвайняны, Хваты. У Агародніках з 24 агародаў 10 $^{3}/_{4}$ былі засеяныя жытам і ярыной, 5 — толькі жытам, а 5 было пустых. Два агароды належалі да царквы і адзін да арэнды. Агароднік Аляксей Вітко, як і продак яго Іван, трымаў засценак над рэчкай Скідлянкай, за які плаціў агулам 8 грошаў, але з прычыны спаленай сенажаці чынш быў зменшаны да 4 грошы. У інвентары адзначалася, што за спаленне сенажаці трэба ў двары даходзіць справядлівасці[96]. Што было прычынай спалення, дакумент не тлумачыў. Усяго ж з вёскі Агароднікі належала платы 97,5 злотага.

У карыстанні сялян астатніх вёсак ключа лічыліся 329 валок ворнай зямлі. З іх ліку амаль 50 валок былі пустымі (15,2%). Значная частка валок

[93] Там жа, арк. 54

[94] Там жа, арк. 54.

[95] Там жа, арк. 52.

[96] Там жа, арк. 53 адв.

— каля 60 (18,2%) — знаходзіліся ў карыстанні шляхты. Напрыклад, у вёсцы Каўшова сяляне засеялі толькі каля 8 валок з 44, чатыры з паловай валокі ляжалі ў пустцы, а больш 35 валок знаходзіліся ў шляхты. Прычым 28 валок як дажывотнік (да смерці) трымаў нехта пан Пашкевіч. У Бірулічах меліся „застаўныя валокі ў пана Ваўкавыцкага і ў іншай шляхты". Нехта пан Леўка ўзяў у заставу 3,5 валокі зямлі ў вёсцы Рыскі за сто тынфаў[97], а сам аддаваў гэтыя валокі (трэба меркаваць мясцовым сялянам) за 16 злотых за валоку. У выніку за 7 гадоў ён меў пажытку, як падлічыў складальнік інвентара, 378 злотых, даўно выбраўшы застаўную суму. Таму гэтыя 3,5 валокі ў пана Леўкі адбіраліся і перадаваліся мясцовым сялянам за чынш 14 злотых. Сялянам забаранялася даваць апошняму які-кольвек чынш. Аўтар інвентара прадпісваў рабіць так з усімі панамі, якія спрабавалі нажывацца на каралеўскіх падданых: „Tenże rigor ma extendi na wszystkich takowych pretextem grunta zabierających y Poddanych wyniszczających tak w tym kluczu we wszystkich wsiach jako y po innych kluczach kiedy to nayduje się"[98].

Войту Скідзельскай воласці давалася паўвалокі службовай зямлі за чынш памерам 10 злотых. У 1708 г. войтам быў жыхар вёскі Некрашы (імя і прозвішча яго ў інвентары не ўказвалася), а перад гэтым — Сухаўлянаў. Усяго ж з вёсак Скідзельскага ключа ў суме выходзіла пазямельных выплатаў 2676,5 злотага, што складала 61,9% ад агульнай сумы прыбыткаў каралеўскага скарбу ад гэтых жа вёсак у 1680 г. — 4325,8 злотага (табліца 6).

***Табліца 6***

**Грашовыя выплаты за зямлю сялян Скідзельскага ключа за 1679, 1708 і 1712 гг. (у злотых)**

| Вёска | 1680 г. | 1708 г. | 1712 г. |
|---|---|---|---|
| Агароднікі | 134 | 97,5 | 72,5 |
| Белякоўшчына | 225 | 160 | 105,5 |
| Бірулічы | 221 | 154 | 123 |
| Гніляны (Падлессе) | 416 | 243,5 | 61,5 |
| Канюхі | 182,5 | 39 | 40 |
| Карашава Малое | 45 | 45 | 48 |
| Каўшова (Капачова) | 266 | 179 | 168 |
| Мазанава | 176 | 64 | 105 |
| Некрашы | 417 | 324 | 305,3 |
| Пузава | 730 | 329 | 350 |
| Пярэдняя Пыра | 134,5 | 49 | 81,5 |
| Русінава | 288 | 184 | 118 |
| Рыскі | 324 | 306,5 | 173,5 |
| Сухаўляны | 329,5 | 215 | 155 |
| Хваты | 140 | 113 | 94,5 |
| Хвайняны | 297,3 | 174 | 90,5 |
| **Разам** | **4325,8** | **2676,5** | **2091,8** |

**Крыніцы:** ДГАЛ, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 70-80; ДГАЛ, SA, № 11 290, арк. 49-54; № 11291, арк. 36 адв. — 41.

[97] Тынф — сярэбраная манета Рэчы Паспалітай другой паловы XVII-XVIII стст. намінальнай вартасцю ў 30 грошаў.

[98] ДГАЛ, SA, № 11 290, арк. 52.

Наступны інвентар Скідзельскага ключа быў складзены ў 1712 г. Арэнда з мястэчка Скідзеля на 1711 г. ужо была вызначана ў суме 1000 злотых, а ў 1712 г. нават аддадзена жыдам Ізраэлю Якубовічу і Іоселю Шмуйловічу за 1100 злотых. Інвентар 1712 г. таксама згадваў, што каля мястэчка на рэчцы Скідлянцы раней быў млын, ад якога мястэчку і скарбу была вялікая выгода, але з прычыны кепскага грунту грэблю часта прарывала і направа яе нямала каштавала. Таму, як адзначыў аўтар інвентара, ужо гадоў з дваццаць азначаны млын не дзейнічаў. Сума прыбыткаў каралеўскага скарбу з усяго Скідзельскага ключа ў 1712 г. павінна была складаць суму 3738,5 злотага[99]. Больш за палову гэтай сумы складалі пазямельныя выплаты жыхароў вёсак — 2091,8 злотага (55,9%), арэнда складала — 1100 злотых (29,4%), выплаты местачкоўцаў — 549 злотых 9 грошаў (14,7%). Прычым пазямельныя выплаты сялян даволі істотна — амаль на 22% — зменшыліся ў параўнанні з інвентаром 1708 г. Прычынай, напэўна, паслужыў катастрафічны стан іх гаспадаркі пасля падзей вайны.

З даступных нам крыніц цяжка меркаваць пра тое, як адбывалася аднаўленне сялянскай гаспадаркі ў наступныя гады. Адзінае з дакладнасцю можна сцвердзіць, што працэс гэты ішоў вельмі няпроста. У ліпені 1720 г. генерал-адміністратар Гарадзенскай эканоміі ў сваёй інструкцыі каралеўскім рэвізорам пісаў, што дажывотнікі і суседняя шляхта чыняць крыўды мясцовым сялянам і мяшчанам і прыносяць шкоду дзяржаўнаму скарбу: „(...) grunta, Place, domy gwałtem w długach poodbierali (...). Szynki po domach trzymaią, karczmy, karczemki na tych że powystawiali y z nich pożytkuią. A chłopi ekonomiczni lub mieszczanie iako to osobliwie w Krynkach, Skidlu, Nowym Dworze, Mostach, Kuznicy miasteczkach wszystkie ciężary z nich ponosić muszą, a szynki ekonomiczne przez to upadaią”[100]. Таксама ў гэтай інструкцыі гаварылася, каб падстарасты на прыватны інтарэс не змушалі гаспадарскіх сялян выконваць талаку ў сваіх прыватных маёнтках і сплаўляць дрэва на плытах для ўласнай патрэбы.

Хаця пазямельныя падаткі, вызначаныя ранейшымі інвентарамі, у першай палове XVIII ст., наколькі мы можам меркаваць, не ўзрасталі ў колькасным вымярэнні, але ўвесь час збіраліся даволі высокія дзяржаўныя падаткі, якія з надзвычайных ператвараліся ў сталыя. Напрыклад, у 1719 г. на Гарадзенскую эканомію ўскладвалася выплата гіберны[101] „на драбантаў” у памеры 24 000 тынфаў, з якіх 18 000 прыходзілі-

[99] ДГАЛ, SA, № 11 291, арк. 41.
[100] AGAD, AK, I/13, k. 8.
[101] Гіберна — грашовы падатак на ўтрыманне войска, які з 1649 г. выплачвала насельніцтва дзяржаўных і царкоўных уладанняў у Рэчы Паспалітай.

ся на эканамічныя вёскі і лясніцтвы, а 6000 — на „дажывотнікаў”[102]. На Скідзельскі ключ выходзіла з гэтай сумы 1400 тынфаў. Дажывотнікамі на той час тут былі пані Пашкевічова ў Каўшове (плаціла 8 тынфаў), а ў Русінаве паны Гурскі (24 тынфы) і Кандрацкі (12 тынфаў).

У 1735 г. Гарадзенскую эканомію прыняў па 7-гадоваму кантракту граф Ежы Флемінг. Тады ж было складзена апісанне Скідзельскага двара, якое засведчыла ступень яго гаспадарчага заняпаду. Многія дворныя будынкі знаходзіліся ў вельмі дрэнным паўразбураным стане, часта без даху, дзвярэй і вокнаў. З гэтага апісання таксама вынікае, што ў Скідзельскім ключы існаваў яшчэ фальварак у вёсцы Каўшова, які раней належаў дажывотніку нейкаму пану Кляту, а пасля смерці апошняга быў далучаны да маёмасці скідзельскага двара. У гэтым каўшоўскім фальварку налічвалася 15 калодаў пчол, саўладальнікам якіх з'яўляўся нейкі селянін з Лышчыцаў (імя яго не называлася). З гэтага вынікае, што паны-землеўладальнікі маглі падтрымліваць і розныя дагаворныя гаспадарчыя адносіны з прадпрымальнымі сялянамі. Таксама адзначалася, што ў гэтым фальварку ўсе будынкі падгнілыя, а „podczas Rewolucyi zaraz po śmierci dożywotnika Jm Pana Klata Oberstleutenanta JKMsci wdzierał się do tego folwarku Jm Pan Benedykt Alexandrowicz Stolnik Grodzieński y człowieka skarbowego zabito, o co z Jmsią Prawem się czyni”[103]. Распачлівая танальнасць аўтара апісання добра перадае дух таго часу, калі мясцовая шляхта мала лічылася як з каралеўскай маёмасцю, так і з існуючымі законамі. У тэксце нічога не ўдакладнялася пра забітага „скарбовага” чалавека, кім ён быў — шляхціцам ці селянінам, а таксама пра прычыны і абставіны забойства. Там жа адзначалася, што той каўшоўскі фальварак „bez osiadłości, bez poddanych”. У катастрафічным стане знаходзіўся і суседні са Скідзелем двор Котра Гарадзенскай эканоміі. Напрыклад, у дворных будынках не было вокнаў, бо, як запісана ў тэксце, „kozacy powybiwali”[104].

Каралеўская адміністрацыя імкнулася ўтрымаць сялян ад уцёкаў з эканамічных вёсак. Падчас падпісання кантракта на арэнду каралеўскіх эканомій з вышэйзгаданым графам Флемінгам у тэксце агаворвалася, што „Rol zaś pustych na folwarki nie ma obracać (...) ale one poddanymi osadzać będzie aby z nich Robocizna dostateczna była”[105]. У той час з даходаў Гарадзенскай эканоміі 1365 злотых ішло на шпіталь пры Гарадзенскім фарным касцёле, па 300 злотых на кляштары кармелітаў і цыстэрсаў, Навадворскаму касцёлу — 50, Азёрскаму — 78, Квасоў-

[102] AGAD, AK, I/9, k. 15-16.
[103] AGAD, AK, II/185, k. 15.
[104] Там жа.
[105] AGAD, AK II/117, k. 409.

скаму — 133, Мастоўскаму — 70, Дзембраўскаму — 200, на шпіталь Гарадзенскай саборнай царквы — 25, кляштар бернардынаў — 130 злотых[106].

Як можна меркаваць на падставе дакументаў, у 1750 г. сяляне Скідзельскага ключа плацілі 1119 тынфаў (1000 злотых) гіберны, 1740 злотых вікторнага і 1770 злотых падымнага падаткаў. З мястэчка Скідзель гіберна складала 173 тынфы, вікторны падатак 184 злотых і падымны 230 злотых [107].

Калі ў 1765 г. старастам Гарадзенскай каралеўскай эканоміі стаў вядомы рэфарматар, блізкі сябар караля Антоні Тызенгаўз, дык ён пачаў актыўна аднаўляць фальваркі ў вёсках каралеўскіх эканомій, а сялян пераводзіць з чыншу на паншчыну. Галоўнай мэтай гэтых пераўтварэнняў з'яўлялася павышэнне прыбыткаў каралеўскага двара. Як адзначылі І. Кітурка і В. Голубеў, апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1764-1795) у супрацьстаянні з уплывовымі магнацкімі родамі адчуваў надзвычай вострую патрэбу ў фінансавай самастойнасці, а таму „павелічэнне даходаў каралеўскага скарбу для яго сапраўды з'яўлялася пытаннем «быць альбо не быць»[108].

Як часта адбывалася ў гісторыі, праблему спрабавалі вырашыць коштам сялян. У канцы XVIII ст. падданыя Скідзельскага ключа падалі калектыўную скаргу на імя Станіслава Панятоўскага. Дакладная дата напісання яе нам невядомая, але на падставе тэкставага аналізу можна зрабіць выснову, што гэта адбылося пасля прыняцця травеньскай канстытуцыі 1791 г. Сяляне скардзіліся, што Антоні Тызенгаўз у 1766 г. пазбавіў іх „старых вольнасцей" і прымусіў выконваць цяжкую паншчыну: „Za rządów y administracyą Jegomości Pana Tyzenhauza Podskarbiego nadwornego WXLit. (...) utracili prawa wolnego człowieka i przemocą do Jarzma Pańszczyzny y nadzwyczayney opłaty znagleni (...) ięczy lud ubogi z maiątków w wolnym czasie zapracowanych wyzuty a naybardziey przemysłem Dzierżawców uciężony szukaiących z cudzego nieszczęsliwienia"[109]. Зрэшты, самога Тызенгаўза на час напісання скаргі ўжо не было сярод жывых. Сяляне скардзіліся на вялізны чынш, цяжкую паншчыну, а таксама на розныя новыя, як яны акрэслілі — „вымысьленыя" павіннасці: „Dźwigaią jarzmo niewolniczey Pańszczyzny i w wymyślnym rodzaiu Robot nazywaiących się szarwarkami gwałtami daremszczyzną Podroszczyzną (...) pod naysurowszemi Exekucyami Żołnierskimi, Bosniaków o Litość do W.K. Mości Pana Naszego (...) Nowy podatek (...) wymyślono

[106] Там жа, k. 405.
[107] AGAD, II/184 (Hyberna na rok 1750), k. 122.
[108] *Гісторыя Беларусі: У 6 т.*, т. 3: *Беларусь у часы Рэчы Паспалітай...*, с. 180.
[109] AGAD, AK, III-69, k. 13.

iaki to łykowego, grzybowego Polesnego Orzechowego (...) w niebyłych nomenklaturach ułożony zamieniony w opłatę. Lud ubogi z wyżywienia z ostatniego maiątku opłacać musi, a wyciężony ustawicznemi exekucyami Bosniaków sprzedawszy ostatek zboża pod wiosenną porą iść musi na żebranie czego dowodem będą Lustracje Rewizorskie Ekonomii Grodzieńskiey w te słowa pisane „Panszczyzny Ekonomiczney nie odbyw poszedł za chlebem".

Такім чынам, аўтары скаргі рабілі стаўку на той аргумент, што высокія павіннасці прыводзяць сялян да галечы, а тым самым прыносяць страты каралеўскаму скарбу. У тэксце скаргі падрабязна апісваліся ранейшыя павіннасці жыхароў Скідзельскага ключа, вызначаныя даўнімі інвентарамі 1662 і 1680 гг. Прычым адзначалася, што арыгіналы гэтых дакументаў знаходзяцца ў архіве Гарадзенскай эканоміі, а сяляне маюць на руках іх копіі: „Rewizia R. 1662 Piwnickiego i Wierzbowskiego późnieysza Zygmunta Otrembusa y Jana Boiana w r. 1680 dla włościan Klucza Skidelskiego w Estraktach wydane a w archiwum Ekonomii Grodzieńskiey w oryginałach nayduiące się". Гэтую скаргу падпісалі „imieniem swoim y wszystkich mieszkańców klucza Skidelskiego" Тэадор Праўка з Бірулічаў і Самуэль Бедысь з Некрашоў.

Але, напэўна, у рэчаіснасці аўтарам тэксту скаргі з'яўляўся нейкі добраадукаваны шляхціц, прычым, магчыма, прыхільнік ліберальных для свайго часу асветніцкіх перакананняў. Сведчыць пра гэта стыль скаргі і наступны фрагмент яе тэксту: „Doznaje Kray cały słodkiego waszey Kr. Mości Pana naszego miłościwego panowania, Prawo teraźnieyszego Seymu dźwignionego Ludu wieyskiego z upadku uwolniło, wielki dobroć swoiego Monarchy wzdycha lud uciśniony w Kmiecim stanie do Prawa pod Dniem 3 miesiąca Maja przez W. Kr. Mość P-a N-o Mił-o i Nayiaśnieszey Rzpltey Seymujące Stany zaprzysiążonego (...)"[110]. У тэксце скаргі гаварылася, што жыхары вёскі Некрашы „podług zwyczaiu dawnieyszego" плацілі 24 тынфы альбо 34 злотых 4 грошы з валокі, і больш нічога не плацілі, а цяпер плацяць 64 злотых з валокі і 119 злотых агулам за сенажатныя моргі. Вёска Гліняны плаціла 18 тынфаў (26 злотых 12 грошаў) з валокі, а цяпер плаціць па 64 злотых. У Сухаўлянах плата за валоку ўзрасла з 20 тынфаў (20 злотых 13 грошаў) да 50 злотых. Белякоўцы плацілі па 11 тынфаў (15 злотых 9 грошаў), а цяпер павінны плаціць па 61 злотаму 12 грошаў. І падобнае кардынальнае падвышэнне выплатаў назіралася ва ўсіх іншых вёсках ключа.

Апроч таго, паводле дадзенай скаргі, былы каралеўскі люстратар і азёрскі губернатар (паводле рэформы Тызенгаўза каралеўскія эканоміі былі падзеленыя на асобныя адміністрацыйныя адзінкі — губерні, а апошнія ў сваю чаргу — на ключы) пан Струпінскі адабраў да свайго

[110] Там жа.

прыватнага маёнтка Котра ад каралеўскіх сялян вёскі Бірулічы 32 сенажатных моргі, а пан Кліманскі адабраў сенажаць у вёскі Канюхі. Нягледзячы на так істотнае павышэнне пазямельнага чыншу, сяляне вымушаныя былі яшчэ адбываць цяжкую паншчыну, якая цяпер, як пісалі аўтары скаргі, вызначалася не з валокі, а з асобнага сялянскага двара, а таксама розныя іншыя выплаты і зборы: „Pomimo tak uciążliwey opłaty Poddani W.Kr.Mości powinność Pańszczyzny ułożoney nie z grunta ale z każdego domu po dni dwa na tydzień prócz stroży tygodniowey y osobno warty nocney z kolei gwałtów szarwarków daremszczyzny w wymyślonych rodzayach Roboczyzny odbywać a udzielnie kury, jaia y gęsi w naturze a iesliby nie były tedy Pieniędzmi płacić znaglaią. A zdarzeniem zaś przez oznaczoney dwa dni Pańszczyzny dzień trzeci odbywać każą”. Жыхары Скідзельскага ключа прасілі манарха вызваліць іх ад цяжкіх павіннасцей: „od nowonołożonych podatków iako też Pańszczyzny Daremszczyzny (...) na mocy Praw nam służących uwolnieni zostały”.

Як можна меркаваць на падставе пазнейшых крыніц, сялянам Скідзельскага ключа так і не ўдалося сваёй скаргай дамагчыся істотнага змяншэння павіннасцей. І ў далейшым іх цяжар толькі ўзрастаў аж да рэформы 1861 г. Статыстычныя матэрыялы выразна сведчаць, што гаспадарчая палітыка Антонія Тызенгаўза вельмі адмоўна адбілася на сялянскіх гаспадарках каралеўскіх эканомій. Інвентарнае апісанне 1780 г. адлюстроўвае фатальны стан забеспячэння сялян хатняй жывёлай. У сялян Скідзельскага ключа на адзін двор у сярэднім прыходзілася 0,3 каня, 1 вол, 0,5 каровы, 0,4 цялушкі, 1,7 авечкі, 0,7 свінні. Да гэтага ключа тады належалі мястэчка Скідзель і 12 ваколічных вёсак, у якіх налічвалася 80 мяшчанскіх-хрысціянскіх, 49 мяшчанскіх-жыдоўскіх і 298 сялянскіх дымоў. Агульная колькасць насельніцтва складала 1791 чалавек (952 мужчыны і 839 жанчын)[111], ці выходзіла ў сярэднім 4,7 асобы на адзін дым (без уліку жыдоўскіх дымоў, адносна якіх адсутнічалі дадзеныя пра колькасць жыхароў). У 1792 г. у мястэчку і 10 вёсках Скідзельскага ключа налічвалася 387 сялянскіх і мяшчанскіх (без уліку жыдоўскіх) двароў і 1956 душ (996 мужчынскіх і 960 жаночых).

Грашовыя выплаты каралеўскіх падданых (сялян і мяшчан) Скідзельскага ключа ў 1792 г. складалі ў суме 9433 злотых і складаліся з чыншу за прыёмныя землі — 4063 злотых 18 грошаў, падарожчыны — 2463 злотых 15 грошаў, зямяншчыны — 162 злотых, падымнага, шэляжнага і кампенсацыйнага — 2605 злотых 22 грошы, а таксама даніны — 138 злотых 12 грошаў. Жыхары мястэчка плацілі 220 злотых падарожчы-

[111] У тагачаснай дэмаграфічнай статыстыцы адсутнічалі дакладныя дадзеныя пра жыдоўскае насельніцтва. Таму, на нашу думку, прыведзеныя лічбы датычылі толькі хрысціянскага насельніцтва каралеўскіх эканомій.

ны, 1097 злотых чыншу і 861 злоты дзяржаўных падаткаў, што складала ў суме 2179 злотых. Большасць гэтай сумы выплачвалі мяшчане-беларусы (90 двароў), паколькі жыды (70 двароў) плацілі толькі чынш за свае местачковыя пляцы і дзяржаўныя падаткі. Вызначыць дакладныя прапорцыі тут складана, паколькі гэта патрабуе паглыбленага аналізу дадзеных інвентара. Сяляне вёсак Скідзельскага ключа плацілі 2243 злотых падарожчыны, 2965 злотых чыншу, 162 злотых зямяншчыны (ва ўсім ключы яе плацілі толькі трох гаспадароў замест выканання паншчыны), 1744 злотых дзяржаўных падаткаў. У суме гэта складала 7114 злотых, ці 24 злотага на адзін сялянскі двор (табліца 7).

***Табліца 7***
**Грашовыя выплаты сялян Скідзельскага ключа ў 1792 г. (у злотых)**

| Вёска | Падарож-чына | Чынш | Зямяншчына | Падымны, шэляжны і кампенсацыйны | Разам | На адзін двор (у сярэднім) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Агароднікі | 54 | 169,5 | - | 51 | 274,5 | 34,3 |
| Белякоўшчына | 203 | 227 | - | 184 | 614 | 17 |
| Гліняны | 510,5 | 703 | - | 303,5 | 1517 | 35,3 |
| Карашава | 141 | 69 | - | 162 | 372 | 12,4 |
| Некрашы | 404 | 420 | 56 | 254 | 1134 | 25,2 |
| Раўкі | 299,5 | 354,5 | 50 | 225,5 | 929,5 | 25,8 |
| Рыскі | 311 | 157,5 | - | 292 | 761,5 | 15,22 |
| Сарочыцы | 36 | 42,5 | - | 30 | 108,5 | 15,4 |
| Сухаўляны | 165 | 671 | - | 145 | 981 | 42,9 |
| Хваты | 119 | 151 | 56 | 97 | 423 | 28,2 |
| **Разам** | **2243** | **2965** | **162** | **1744** | **7114** | **24** |

**Крыніца:** ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.).

Мяшчанам-хрысціянам Скідзеля ў 1792 г. належалі 39 $^{1}/_{2}$ ворных валок, з іх 36 $^{7}/_{24}$ прыёмных (за іх яны плацілі чынш), 2 $^{3}/_{4}$ валокі былі пад афіцыялістамі (сялянскімі службовымі асобамі — цівунамі, войтамі, лаўнікамі, баснякамі), а каля паловы валокі ($^{11}/_{24}$) — ляжала ў зараслях. Апроч таго скідлянам належалі 113 ворных моргаў. Такім чынам, агульная плошча зямлі местачкоўцаў складала болей за 43 валокі, ці ў сярэднім 0,48 валокі на двор.

Апроч мястэчка ў склад Скідзельскага ключа ў 1792 г. уваходзілі 10 вёсак: Агароднікі, Белякоўшчына, Гліняны, Карашава, Некрашы, Сарочыцы, Раўкі, Рыскі, Сухаўляны і Хваты. У Агародніках зямельныя ўчасткі па-ранейшаму вымяраліся агародамі. Праўда, у 1792 г. засталося толькі 6 сядзібных агародаў, а таксама 13 $^{1}/_{4}$ чыншовых і 4 $^{1}/_{4}$ вольных. За адзін агарод выходзіла каля 11 злотых чыншу. У астатніх вё-

сках сялянскія ворныя валокі дзяліліся на сядзібныя і прыёмныя. Сядзібных валок налічвалася амаль 57, прыёмных — 81 $^{1}/_{3}$. Яшчэ 4 $^{2}/_{3}$ валокі знаходзіліся ў карыстанні афіцыялістаў, 6 валок былі забраныя пад фальварак, прыкладна 5,5 валокі знаходзіліся пад зараснікамі, 3 $^{1}/_{4}$ — пад арэндай.

Калі выключыць арэндныя, зарослыя і забраныя дваром валокі, дык усяго ў карыстанні сялян Скідзельскага ключа былі 143 ворныя валокі, ці 0,49 валокі ў сярэднім на адзін двор. Апроч таго, асобна ў іх карыстанні знаходзіліся 114 ворных і 47 сенажатных моргаў. Пазямельны чынш і падарожчына з гэтых вёсак складала суму 4986,5 злотага, ці ў сярэднім каля 33 злотых за валоку зямлі.

Агульны прыбытак каралеўскага скарбу ад Скідзельскага ключа складаў 30 211 злотых 7 грошаў[112]. Але вёскі Сарочыцы і Раўкі знаходзіліся ў трыманні пана Бажэцкага, які плаціў за гэта 3282 злотых 11 грошаў, а вёска Карашава — у трыманні пана Данкевіча за 786 злотых 27 грошаў. Заставалася сума 26 141 злоты 29 грошаў, якую ўносіла ў эканамічную касу адміністрацыя скідзельскага двара. Крэсцэнцыя[113] ад фальварка Скідзель складала 8011 злотых (26,5% ад прыбыткаў Скідзельскага ключа), арэнда — 12761 (42,2%). Арэнда, як можна меркаваць на падставе аналізу інвентара, ужо цалкам зноходзілася ў руках жыдоў. Большая яе частка належала ад мястэчка Скідзель — 10 310 злотых. Рэшту прыносілі корчмы ў вёсках. Так, карчма ў Рысках давала 750 злотых прыбытку, у Белякоўшчыне і Карашаве — 600, у Раўках — 500, у Сухаўлянах — 300 злотых. Да арэнды дадаваўся падатак з жыдоў пад назвай рабінаўшчына — 310 злотых. Такім чынам, грашовыя выплаты сялян складалі ўжо толькі 31,3% ад агульнага прыбытку каралеўскага скарбу ад Скідзельскага ключа. Дзяржаўныя падаткі — падымны, шэляжны і кампенсацыйны — складалі амаль 2606 злотых, ці ў сярэднім па 6,7 злотага на адзін двор.

Паспрабуем перавесці на грошы ўсе сялянскія павіннасці ў 1792 г. на прыкладзе вёскі Некрашы. Як можна зрабіць выснову на падставе дадзеных інвентара, у гэтай вёсцы за аседлую валоку замест паншчыны і згонаў сяляне маглі плаціць 112 злотых зямяншчыны, з гэтых жа валок яшчэ належала падарожчыны па 45 злотых 14 грошаў. Такім чынам, кошт павіннасцей з адной аседлай валокі ў Некрашах складаў 157,5 злотага, а з прыёмных валок належаў чынш — 54 злотых 23 грошы. Аседлых валок у Некрашах налічвалася 8 $^{7}/_{8}$, а прыёмных — 6 $^{1}/_{12}$. Можна падлічыць, што ў суме гэта складала 1398 злотых за аседлыя валокі

[112] ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 323 адв.

[113] Крэсцэнцыя — даход ад прадукцыі з фальваркавых палеткаў.

і 332,5 злотых за прыёмныя, ці 1730,5 злотага разам. У сярэднім жа за адну валоку ворнай зямлі ў Некрашах выходзіла платы прыкладна 115 злотых, а на адзін сялянскі двор — 36,8 злотага. В. Насевіч сцвярджае, што ў апошняй чвэрці XVIII ст. сярэдні кошт віленскай бочкі[114] жыта складаў 20 злотых. Калі прыняць гэтую лічбу, дык пераведзеныя на грошы павіннасці сялян вёскі Некрашы з адной валокі адпавядалі амаль 6 бочкам жыта. Віленская бочка, якая была прынятая ў канцы XVIII ст. у якасці асноўнай меры аб'ёму сыпкіх рэчываў у ВКЛ, уключала прыкладна 294 кг жыта. Значыцца, у 1792 г. сялянам Некрашоў, каб сплаціць усе павіннасці з валокі ворнай зямлі, патрэбна было б прадаць амаль 1700 кг жыта, альбо каля 625 кг з аднаго двара. Такіх лішкаў прадукцыі ў канцы XVIII ст. сяляне ўжо не мелі.

У 1558 г. пераведзеныя на грошы павіннасці з адной ворнай валокі ў Некрашах складалі 97 грошаў, што адпавядала кошту прыкладна 10 тагачасных бочак жыта, у якія, паводле падлікаў В. Насевіча[115], уваходзіла прыкладна 94 кг азімага жыта. Значыцца, гаспадар валокі павінен быў бы аддаць двару эквівалент прыкладна 900 кг жыта. Такім чынам, паводле нашых падлікаў, рэальны рост павіннасцей у 1792 г. у параўнанні з 1558 г. склаў прыкладна 190%, альбо вырас амаль у два разы. Прычым, калі ў 1558 г. значная частка сялян была ў стане выплачваць усе павіннасці грашыма, дык у 1792 г. на гэта былі здольныя толькі рэдкія адзінкі.

Мы параўналі пазямельныя выплаты 15 вёсак Скідзельскага ключа і мястэчка Скідзель за 1680, 1708, 1712, 1792 гг. (табліца 8). Трэба адзначыць, што ў 1792 г. траціна гэтых вёсак уваходзіла ўжо ў іншыя ключы Гарадзенскай эканоміі. Атрымліваецца, што ў 1792 г. намінальная сума выплатаў узрасла ў параўнанні з 1680 г. у тры разы, а ў параўнанні з 1712 г. у шэсць разоў. Натуральна, тут трэба памятаць пра працэсы інфляцыі, якія адбыліся на працягу стагоддзя. Акрамя таго, у выплаты 1792 г. уключаны дзяржаўныя падаткі. Але, разам з тым, у 1680 г. сяляне не адбывалі паншчыны, а ў 1792 г. грашовыя выплаты сталі ўжо толькі дадаткам да адпрацовачных павіннасцей.

***Табліца 8***
**Зямельны чынш з вёсак Скідзельскага ключа паводле інвентароў Гарадзенскай эканоміі (у злотых)**

[114] Бочка віленская — мера сыпкіх рэчываў у ВКЛ. Паводле пастановы сейма 1766 г. раўнялася 406,6 л, ці прыблізна 18 пудам жыта.
[115] В. Носевич, *Традиционная белорусская деревня...*, с. 78.

| Вёска | 1680 г. | 1708 г. | 1712 г. | 1792 г. |
|---|---|---|---|---|
| Скідзель | 641 | 560 | 549 | 1318 |
| Агароднікі | 134 | 97,5 | 72,5 | 274,5 |
| Белякоўшчына | 225 | 160 | 105,5 | 612,5 |
| Бірулічы | 221 | 154 | 123 | 909 |
| Гніляны | 416 | 243,5 | 61,5 | 1517,5 |
| Канюхі | 182,5 | 39 | 40 | 1303,5 |
| Карашава М. | 45 | 45 | 48 | 372,5 |
| Каўшова | 266 | 179 | 168 | 1415 |
| Мазанава | 176 | 64 | 105 | 1314,5 |
| Некрашы | 417 | 324 | 305,3 | 1134 |
| Пузавічы | 730 | 329 | 350 | 1746 |
| Русінава | 288 | 184 | 118 | 831 |
| Рыскі | 324 | 306,5 | 173,5 | 761 |
| Сухаўляны | 329,5 | 215 | 155 | 901,5 |
| Хваты | 140 | 113 | 94,5 | 423 |
| Хвайняны | 297,3 | 174 | 90,5 | 614 |
| **Разам** | **4832,3** | **3187,5** | **2559,3** | **15447,5** |

**Крыніцы:** *Писцовая книга Гродненской экономии, изданная Виленскою коммисией для разбора Древних актов*, т. 2, Вильно 1882; Ossolineum. Nr 5620/II. Інвентар Гродзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г. сс. 255-289; ДГАЛ, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 70-80; ДГАЛ, SA, № 11 290, арк. 49-54; № 11291, арк. 36 адв. — 41; ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.).

У разліку на адзін сялянскі двор выплаты з сялянскага двара ў 1792 г. у параўнанні з 1680 г. таксама выраслі даволі істотна (табліца 9).

***Табліца 9***

**Грашовыя выплаты сялян Скідзельскага ключа ў 1680 і 1792 гг. у разліку на адзін двор**

| Вёска | У 1680 г. на адзін двор (у злотых) | У 1792 г. на адзін двор (у злотых) | У 1792 г. адносна 1680 г. (у %) |
|---|---|---|---|
| Агароднікі | 23,3 | 34,3 | 147,20 |
| Белякоўшчына | 8,3 | 17 | 204,80 |
| Бірулічы | 15,8 | 31,3 | 198,10 |
| Гніляны | 14,8 | 35,3 | 238,50 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Канюхі | 7,6 | 52,2 | 686,80 |
| Каўшова | 14,4 | 30,8 | 213,90 |
| Карашава М. | - | 12,4 | - |
| Мазанава | 9 | 39,8 | 442,40 |
| Некрашы | 10,4 | 25,2 | 242,30 |
| Пузавічы | 18,25 | 32,3 | 177,00 |
| Сухаўляны | 17,7 | 42,9 | 242,40 |
| Хваты | 10,8 | 28,2 | 261,10 |

**Крыніца:** ДГАЛ, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 70-80 (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1680 г.); ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.).

Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў цэлым структура сялянскага землекарыстання на Скідзельшчыне не змянілася істотна з часу валочнай памеры 1558 г. На адзін сялянскі двор у сярэднім выходзіла прыкладна паўвалокі ворнай зямлі (табліца 10). На падставе дадзеных тых вёсак Скідзельскага ключа, адносна якіх у інвентары мелася інфармацыя пра колькасць паншчыны, можна сцвярджаць, што выходзіла ў сярэднім трохі больш за два з паловай адпрацовачных дні ў тыдзень з валокі.

### *Табліца 10*
### Павіннасці сялян Скідзельскага ключа паводле інвентара 1792 г.

| Вёска | Колькасць двароў | Ворыўных валок | На 1 сялянскі двор валок | Паншчына з вёскі (дзён на тыдзень) | Паншчынных дзён на адну валоку | Гвалты і шарваркі (дзён на год) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | вупражных | пешых |
| Агароднікі | 8 | 19 ¼ агародаў | 2,1 агарода на адзін двор | 13 | 0,65 на агарод | 6 | 58 |
| Белякоўшчына | 36 | 24 | 0,67 | 54 | 2,25 | 32 | 276 |
| Гліняны | 44 | 36 | 0,8 | 76 | 2 | 39 | 405 |
| Некрашы | 47 | 16 | 0,34 | 69 | 4 | 38 | 318 |
| Карашава | 31 | 8 | 0,26 | няма звестак | н. зв. | н. зв. | |
| Раўкі | 36 | 16 | 0,44 | н. зв. | н. зв. | н. зв. | |
| Рыскі | 51 | 19 | 0,37 | 86 | 4,5 | 44 | 420 |
| Сарочыцы | 7 | 2 | 0,29 | н. зв. | н. зв. | н. зв. | |
| Сухаўляны | 21 | 30 | 1,4 | 40 | 1,3 | 19 | 169 |
| Хваты | 16 | 7 | 0,43 | 21 | 3 | 13 | 123 |
| **Разам** | **289*** | **158*** | **0,55** | **346**** | **2,6**** | **191***** | **1769***** |

**Крыніцы:** ДГАЛ, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 70-80 (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1680 г.); ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.).

* без уліку вёскі Агароднікі

** без уліку вёсак Агароднікі, Карашава, Раўкі і Сарочыцы

*** без уліку вёсак Карашава, Раўкі і Сарочыцы

У 1792 г. з 90 двароў скідзельскіх мяшчан 47 выконвалі вупражныя гвалты і 16 пешыя. Вольнымі ад апрацовачных павіннасцей з'яўляліся 27 мяшчанскіх дамоў. У мястэчку тады налічвалася таксама 70 жыдоўскіх дымоў. З 297 сялянскіх дымоў Скідзельскага ключа 253 выконвалі вупражную павіннасць, 23 — толькі пешую, афіцыялістаў (службовых асоб), вызваленых ад адпрацовак, было 10 гаспадарак, зямян (плацілі толькі грашовую зямяншчыну) — 4, гаёвы — 1, калекаў — 6. У параўнанні з 1558 г. сяляне 15 вёсак Скідзельшчыны ў 1792 г. адбывалі ў 1,2 раза больш паншчынных дзён на тыдзень, а ў параўнанні з 1650 г. — у тры разы болей (табліца 11).

***Табліца 11***

**Адпрацовачныя павіннасці вёсак Скідзельскага ключа паводле інвентароў Гарадзенскай эканоміі (тыднёвая паншчына)**

| Вёска | 1558 г. | 1650 г. | 1792 г. |
|---|---|---|---|
| Агароднікі | 48 ( пешай паншчыны) | 45 (пешай паншчыны) | 13 |
| Белякоўшчына | 44 | - | 54 |
| Бірулічы | 28 | 9 | 47 |
| Гліняны | 68 | 24 | 76 |
| Каўшова | 78 | - | 44 |
| Карашава М. | - | - | - |
| Канюхі | - | - | - |
| Мазанава | 22 | - | - |
| Некрашы | 28 | 24 | 69 |
| Пузавічы | - | 29 | 95 |
| Сухаўляны | 56 | 17 | 40 |
| Хваты | - | - | 21 |
| **Разам** | **372** | **148** | **459** |

**Крыніцы:** *Писцовая книга Гродненской экономии, изданная Виленскою коммисией для разбора Древних актов*, т. 2, Вильно 1882; Ossolineum. Nr 5620/II. Інвентар Гродзенскай каралеўскай эканоміі за 1679 г., сс. 255-289; ДГАЛ, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 70-80; ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.

Можна меркаваць, што асноўны рост павіннасцей жыхароў Скідзельскай воласці адбыўся ў выніку пераўтварэнняў Антонія Тызенгаўза. Вынікам гэтага стала радыкальнае збядненне мясцовага сялянства. У нашым распараджэнні ёсць дадзеныя аб забяспечанасці працоўнай жывёлай 14 вёсак Скідзельскай воласці (ключа) за 1558 і 1792 гг., што дазваляе правесці параўнаўчы аналіз (табліца 12). У выніку атрымлі-

ваем дадзеныя, што колькасць рабочых валоў у гэтых вёсках у 1792 г. складала 83,6% да паказчыка 1558 г., а колькасць коней — 41,8%. Несумненна, паказчык забяспечанасці працоўнай жывёлай з'яўляецца адным з галоўных паказчыкаў агульнага стану сялянскай гаспадаркі. Ці можна на падставе гэтага сцвярджаць, што сялянская гаспадарка ў даследуемым мікрарэгіёне перажыла відавочную дэградацыю? Асноўны спад, напэўна, прыйшоўся на часы рэформы Антонія Тызенгаўза. І. Кітурка і В. Голубеў прыводзяць лічбы, што ў Гарадзенскай эканоміі з 1765 г. па 1780 г. колькасць коней у сялянскіх гаспадарках зменшылася з 9379 да 3568, а валоў з 9260 да 9011 штук[116]. Вельмі важным уяўляецца пошук адказу на пытанне ці была гэтая тэндэнцыя характэрная для ўсёй тэрыторыі Беларусі, альбо асобных яе рэгіёнаў. Каб высветліць гэта, патрэбнае правядзенне дадатковых даследаванняў.

***Табліца 12***

**Забяспечанасць сялян вёсак Скідзельскай воласці працоўнай жывёлай у 1558 і 1792 гг.**

| Вёска | 1558 г. | | 1792 г. | | У 1792 г. адносна 1558 г. (у %) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Валы | Коні | Валы | Коні | Валы | Коні |
| Бірулічы | 41 | 19 | 39 | 7 | 95,1 | 36,8 |
| В. Карашава | 55 | 28 | 49 | 9 | 89 | 32,1 |
| Гніляны | 127 | 71 | 78 | 30 | 61,4 | 42,3 |
| Каўшова | 104 | 59 | 65 | 15 | 62,5 | 25,4 |
| Канюхі | 52 | 32 | 26 | 14 | 50 | 43,8 |
| Мазанава | 29 | 13 | 32 | 3 | 110,3 | 23 |
| М. Карашава | 8 | 11 | 62 | 16 | 775 | 145,5 |
| Некрашы | 45 | 25 | 64 | 17 | 142,2 | 68 |
| Пузавічы | 119 | 59 | 75 | 13 | 63 | 22 |
| Русінаўцы | 65 | 27 | 43 | 16 | 66,2 | 59,3 |
| Рыскі | 57 | 32 | 61 | 26 | 107 | 81,3 |
| Сухаўляны | 69 | 39 | 39 | 6 | 56,5 | 15,4 |
| Хвайняны | 52 | 30 | 37 | 11 | 71,2 | 36,7 |
| Хваты | 10 | 5 | 27 | 5 | 270 | 100 |
| **Разам** | **833** | **450** | **697** | **188** | **83,6** | **41,8** |

**Крыніцы:** *Писцовая книга Гродненской экономии, изданная Виленскою коммисией для разбора Древних актов*, т. 2, Вильно 1882; ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.).

Трэці падзел Рэчы Паспалітай і далучэнне заходнебеларускіх зямель да Расійскай імперыі аказалі вельмі істотны ўплыў на лёсы жыхароў Скідзельшчыны. У верасні 1795 г. імператрыца Кацярына II падаравала Скідзельскі ключ удаве князя Антона Святаполк-Чацвярцінскага і яго нашчадкам у „вечное и потомственное владение". Такім чынам, Скідзельскі ключ каралеўскай эканоміі з дзяржаўнага ўладання ператварыўся ў прыватнаўласніцкі маёнтак, да якога належалі вёскі Белякоўшчына, Гліняны, Карашава, Некрашы, Рыскі, Сухаўляны, Хваты з Агароднікамі і само мястэчка Скідзель. Агульная плошча маёнтка складала 5545 дзесяцін[117] 1142 сажняў зямлі (каля 6058,5 га)[118]. На новых уладальнікаў ускладвалася адказнасць за выплату мясцовымі жыхарамі дзяржаўных падаткаў, выкананне імі рэкруцкай павіннасці (гэта была новая і вельмі цяжкая для беларускіх сялян павіннасць), трыманне ў добрым стане дарог і мастоў, а таксама плаціны на рацэ Котры, якая служыла важнейшым водным шляхам для сплаву лесу з абшараў Гарадзенскай пушчы.

У 1820-х гадах уладальніца маёнтка Скідзель княгіня Калета Чацвярцінская пачала актыўна праводзіць гаспадарчыя пераўтварэнні, якія выклікалі шматлікія скаргі з боку падданых. Княгіня забірала ў сялян лепшыя землі і адводзіла пад фальваркі, якія абрабляліся тымі ж сялянамі з дапамогай паншчыны. Так, у 1827 г. яна адабрала лепшыя ворныя палеткі ў жыхароў мястэчка Скідзель, а ўзамен прызначыла значна горшыя паводле іх якасці. Гэтыя дзеянні Калеты Чацвярцінскай выклікалі ўпарты супраціў скідлян, якія лічылі сябе мяшчанамі, а не прыгоннымі сялянамі, а ў часы Рэчы Паспалітай ніколі не адбывалі паншчыны. Местачкоўцы ад пачатку заснавання Скідзеля свабодна валодалі сваімі зямельнымі надзеламі, перадавалі іх у спадчыну, аддавалі ў пасаг, прадавалі і закладвалі. Таму дзеянні Чацвярцінскай яны ўспрынялі як грубае парушэнне сваіх правоў.

У выніку ў чэрвені 1827 г. намеснік Царства Польскага і брат імператара Мікалая I цэсарэвіч Канстанцін Паўлавіч атрымаў скаргу ад жыхароў Скідзеля на сваю ўладальніцу Калету Чацвярцінскую. Пра яе змест можна здагадвацца з загаду цэсарэвіча, выдадзенага 4 студзеня наступнага 1828 г.: „Дабы жители местечка Скидель отыскивающие мещанство не были понуждаемы к работанию барщины ночью и в праздничные дни, а с крестьян не были взыскиваемы последством экзекуции поземельные оброки, сверх инвентаря установленные"[119]. Гэты за-

[116] *Гісторыя Беларусі: У 6 т.*, т. 3: *Беларусь у часы Рэчы Паспалітай...*, с. 186.

[117] Дзесяціна — мера плошчы ў Расійскай імперыі. Раўнялася 1,0925 га. Складалася з 2400 квадратных сажняў.

[118] НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 38.

[119] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 2, спр. 1825, арк. 8.

гад абвесціў княгіні і жыхарам мястэчка маршалак шляхты Гродзенскага павета Баржэцкі. Ён сведчыў пра ступень драматызму ў адносінах местачкоўцаў і дворнай улады.

Неўзабаве цэсарэвіч атрымаў яшчэ адну скаргу, пра што сведчыла з'яўленне новага „повеления" ад 6 сакавіка 1828 г.: „Я получил вновь прошение от 32-х человек жителей м. Скиделя отыскивающих мещанства, в котором они повторили прежнюю жалобу свою на притеснения им помещицею княжною Четвертинскою и на потерпенные некоторыми из них от экономического управления побои, а также на угнетение оных строгою экзекуцией за неплатежи казенных податей, коих многие из просителей не в состоянии платить быв разорены владелицей Четвертинскою"[120]. Але 23 кастрычніка таго ж года ў Скідзель была паслана ваенная каманда „для приведения крестьян в повиновение княгини Четвертинской"[121].

Канчатковы свой загад па справе жыхароў Скідзеля цэсарэвіч Канстанцін выдаў 31 снежня 1828 г., у якім ён канстатаваў, што „(...) скидельские жители, почитая себя мещанами и несогласясь на принятие назначенных им Повятовым Маршалом земель, отложились от повиновения дворовому начальству"[122]. На думку цэсарэвіча, скарга гэта з'явілася ці ў выніку „подстрекательства корыстных людей", ці „от недоразумения самих крестьян, кои признавая себя мещанами, полагают, что якобы помещица не имела права отбирать у них земель и наделять другими"[123]. Такім чынам, царскі намеснік у спрэчцы скідзельцаў з уладальніцай прыняў бок апошняй. Дарэчы, як вынікае з тэксту цэсарэвічавага загаду, дык сяляне да сваёй скаргі далучылі старажытны дакумент, які пацвярджаў іх мяшчанскія правы і прывілеі. Але тут намеснік імператара адзначыў, што такія справы павінны разглядацца ў адпаведных судовых інстанцыях.

Гаспадарчы інвентар маёнтка Скідзель за 1845 г., які быў складзены ў выніку рэалізацыі так званай інвентарнай рэформы[124], даволі падрабязна апісваў павіннасці сялян на карысць панскага двара, галоўнай з якіх з'яўлялася паншчына[125]. Жыхары мястэчка мусілі адпрацаваць адзін дзень паншчыны ў тыдзень з сялянскага двара, а жыхары вёсак

[120] Там жа.
[121] Там жа.
[122] Там жа.
[123] Там жа.
[124] Інвентарная рэформа 1840-1850-х гадоў — праводзілася ўрадам Расійскай імперыі з мэтай урэгуляваць адносіны паміж землеўладальнікамі і прыгоннымі сялянамі.
[125] НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 1-96 (Інвентар маёнтка Скідзель за 1845 г.).

— па тры дні. Апроч таго, ад кожнага двара належала адпрацаваць 30 жаночых дзён паншчыны з 1 красавіка па 1 лістапада, па 6 дзён гвалтаў ці згонаў (тэрміновыя працы пад час жніва і касьбы, калі ўсе дарослыя члены сялянскай сям'і, апроч аднаго, які даглядаў за дзецьмі і агнём у печы, шлі на панскі палетак), шарваркаў (прызначаліся для будаўніцтва дарог, мастоў і іншых тэрміновых і неабходных грамадскіх работ) па 20 у год для местачкоўцаў і па 12 для вяскоўцаў (10 з іх прызначаліся на грамадскія патрэбы саміх сялян, а астатнія — на патрэбы панскага двара), адбыць варту па 5 дзён (залічвалася за тыдзень паншчыны), даць даніну па 1 курыцы, 6 яек ад двара і 1 гусцы з 10 двароў (даніна традыцыйна пералічвалася на грошы), напрасці для пана ад кожнага сялянскага двара па 1 фунце тонкай і па 4 фунты тоўстай авечай поўсці з таго матэрыялу, які выдаваўся з фальварка.

Мужчыны, паводле інвентара, лічыліся здольнымі да выканання паншчыны ва ўзросце ад 18 да 55 гадоў, жанчыны — ад 16 да 50 гадоў. Але на гвалты ці згоны павінны былі ісці мужчыны ад 14 да 60 гадоў і жанчыны ад 14 да 55 гадоў. Для выканання паншчыны існавалі адмысловыя ўрокі, якія вызначалі аб'ём працы. Напрыклад, адзін работнік мусіў за дзень узараць $^1/_3$ дзесяціны ворыва, забаранаваць $^2/_3$ дзесяціны, нажаць ад 225 да 400 сажняў азімага жыта ў залежнасці ад якасці палетка. Калі ён не спраўляўся з гэтай работай, дык павінен быў прыйсці на другі дзень і завершыць яе. Для апрацоўкі, напрыклад, адной дзесяціны дворнай ворнай зямлі патрабавалася 22 вупражных дзён працы і 24 пешых. За якасцю выкананай працы звычайна сачылі наглядчыкі („надзорцы") і цівуны, якія звычайна прызначаліся з саміх сялян. За дрэнную працу яны маглі фізічна пакараць прыгоннага. У інвентары агаворваецца, што „прыказчык" (цівун) можа сваёй воляй прызначыць пакаранне 5 удараў розгамі. Большае пакаранне меў права накласці ўжо сам пан, альбо аканом, які замяшчаў яго.

Апроч натуральных павіннасцей па-ранейшаму існаваў і грашовы чынш, велічыня якога вагалася па вёсках маёнтка ад 46,5 капейкі да 3 рублёў серабром з двара ў год. Тлумачылася гэтая розніца якасцю зямлі, якой карысталіся сяляне. Яны мелі права на воз дроў з панскага лесу кожны тыдзень. Будаўнічы матэрыял можна было атрымаць у тым жа лесе „в случае необходимости". Напэўна, тут ужо вырашаў уладальнік ці аканом маёнтка ў кожным канкрэтным выпадку. Сяляне таксама мелі права пасвіць сваю жывёлу „в зарослях и экономических лесах".

Сялянскія павіннасці, паводле палажэнняў інвентарнай рэформы, не павінны былі перавышаць трэцяй часткі прыбыткаў сялянскай гаспадаркі. Разлікі гэтых прыбыткаў ажыццяўляліся такім чынам. Сярэдні надзел у маёнтку Скідзель, паводле інвентара, складаў 1600 сажняў сядзібы, 9 дз. 800 саж. ворыва, 1 дз. 800 саж. сенажаці. Пад азімае адво-

дзілася 3 дз. 266 саж., на якіх высяваліся 2 чвэрці[126] 5 чацвярыкоў 4 $^{2}/_{3}$ гарнцаў зерня. Пры сярэднім ураджаі гэта давала 13 чвэрцяў 3 чацвярыкі 7 $^{1}/_{3}$ гарнца збожжа. За сярэдні кошт жыта прымаўся 2,60 руб. за чвэрць. У суме прыбытак ад азімага жыта складаў 35,5 руб. Столькі, паводле разлікаў эканоміі, давалі селяніну яравыя пасевы. Прысядзібныя агароды прыносілі 10,6 руб. Збор сена ў сярэднім складаў 133 пуды, ці 29,22 руб. у грашовым эквіваленце. У суме гадавы прыбытак сялянскага двара складаў 98 руб. Агульная ж сума павіннасцей ацэньвалася лічбай 30,4 руб.[127] Вупражная паншчына, па 15 капеек за дзень, складала 23,40 руб., пешая паншчына — 2,70 руб., згоны — 1, 62 руб. З дадаткам 1,5 руб. аброку так званыя асноўныя павіннасці складалі 29,22 руб. Апроч таго, улічваліся яшчэ дадатковыя павіннасці: будаўнічыя шарваркавыя дні — 30 капеек, $^{1}/_{10}$ частка гускі — 3 капейкі, курыца — 10 капеек, 6 яек — 3 капейкі (такім чынам, традыцыйная даніна з валокі ацэньвалася цяпер сумай 70 капеек, ці 35 грошаў у пераліку на старую грашовую сістэму), пража — 72 капейкі. Агульная сума павіннасцей у выніку складала 30,4 руб.[128]

Апрача павіннасцей на карысць панскага двара, сяляне мусілі яшчэ плаціць дзяржаўныя падаткі, якія складаліся з падушнага падатку, харчовага і агульнага земскага збору. Велічыня падатку налічвалася паводле дадзеных рэвізскага перапісу ад колькасці мужчынскіх душ. Прычым плаціць трэба было і за збеглых, памерлых і рэкрутаў, пакуль не будзе новага перапісу. Падаткі раскладваліся пароўну на кожны двор. Іх агульная сума па ўсім маёнтку Скідзель складала 1585 руб., ці ў сярэднім 5,64 руб. з сялянскага двара і 1,6 руб. з рэвізскай мужчынскай душы. Праўда, памешчык скардзіўся, што „причитающееся с крестьян подати едва вносятся и в половине, а другую всегда почти вносит за них экономия, не получая никогда в возврат таковых”[129]. Складальнік інвентара адзначаў: „Государственные подати крестьяне плотят половину в сентябрьской рате, а другую половину дворовое начальство в мартовской рате”. Памешчык таксама выплачваў 39 руб. казённых падаткаў за дваровых людзей. Апроч таго, эканомія яшчэ плаціла прыватны земскі падатак, падатак на вінакурэнне і падатак на Брэсцкі кадэцкі корпус, якія ў суме складалі 629 руб. 16 кап.

Такім чынам, агульная сума ўсіх павіннасцей з аднаго сялянскага двара ў пераліку на грошы, калі прыняць разлікі эканоміі, складала 36,04

126 Чвэрць — мера сыпкіх рэчываў. Раўнялася прыкладна палове віленскай бочкі. У Гарадзенскай губерні ў XIX ст. лічылася, што ў чвэрць уваходзіць 7 пудоў 10 фунтаў жыта (прыкладна 119 кг).

127 НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 33.

128 Там жа.

129 Там жа, арк. 41 адв.

руб. Як сцвярджаў вядомы даследчык Гродзенскай губерні Павел Баброўскі, у палове XIX ст. сярэбраны рубель адпавядаў 6 польскім злотым 20 грошам[130]. Такім чынам, калі перавесці вышэйназваную суму выплатаў з аднаго двара ў злотыя, дык атрымаецца больш 240 злотых. Паводле інвентара, кошт жытняга збожжа ў Скідзелі складаў 2,6 руб. за чвэрць. Такім чынам, пры пераводзе грошай у збожжа выходзіла амаль 14 чвэрцяў збожжа, ці прыкладна 1650 кг. Наколькі можна меркаваць, самой магчымасці замены адпрацовак грашовымі выплатамі ўжо не прадугледжвалася. Але і выплаціць такія грошы селяніну ў 1845 г. было ўжо не пад сілу. Тут трэба дадаць, што з усіх сялян маёнтка яшчэ належала 17,4 руб. серабром на апрацоўку зямлі праваслаўнага святара (такую ж суму выдавала і эканомія) і 22,22 руб. на дровы для царкоўнага прычту.

У рэчаіснасці стан сялянскай гаспадаркі, напэўна, выглядаў горш, чым паказвалі падлікі эканоміі. Захаваліся дадзеныя, якія эканомія сабрала ў 1828 г. адносна сялян вёскі Беляковшчына[131]. Мэтай іх збору было высветліць той факт, хто з сялян у рэчаіснасці не ў стане плаціць павіннасці з прычыны беднасці, а хто толькі прыкідваецца бедным. Так, самы заможны гаспадар вёскі Мікалай Вайцяшэня сабраў у той год ураджай 10 коп жыта (прыкладна 40-50 пудоў), 4 капы ячменю, 2 капы аўса, 1 капу грэчкі, 30 коп льну і 6 вазоў сена. Бядняк Лявон Шыла сабраў 5 коп жыта, 1 капу ячменю, 1 капу аўса, 1 капу грэчкі, 10 коп льну, 2 вазы сена. Такім чынам, нават самы заможны гаспадар вёскі, калі б прадаў увесь свой ураджай, не здолеў бы сабраць суму, якая б дазволіла яму выплаціць усе павіннасці.

А значную частку грошай, якія сяляне ўсё ж зараблялі, яны пакідалі ў панскіх корчмах і шынках. Толькі ў мястэчку Скідзель у 1845 г. налічваўся 21 шынок, а яшчэ 6 корчмаў знаходзілася па вёсках. У маёнтку працавала паравая вінакурня, якая расходавала ў дзень 10 пудоў мукі альбо 20 чвэрцяў бульбы. Вытворчасць гарэлкі працягвалася тут на працягу 6 месяцаў у год. За гэты час, паводле дадзеных інвентара, прадукавалася 6525 вёдраў гарэлкі (80 257,5 л)[132]. Для гэтага патрабавалася 1800 пудоў мукі (225 чвэрцяў) альбо 3600 чвэрцяў бульбы[133]. Выручка эканоміі ад продажу гарэлкі ацэньвалася ў інвентары сумай 4160 руб. Гэта была самая істотная крыніца даходаў для ўладальнікаў Скі-

[130] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба, Гродненская губерния*, т. 2, Санкт-Петербург 1863, с. 360.

[131] Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (далей: ГДГАМ), Аддзел рукапісаў і кнігазбораў, ф. 15123 (Архіў князёў Чацвярцінскіх).

[132] Вядро — мера вадкіх рэчываў. Раўнялася 12,3 л.

[133] НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 40.

дзеля. Вядро гарэлкі каштавала 2,6 руб. На адну сялянскую душу выходзіла болей за 41 літр гарэлкі. Можна меркаваць, што спажыванне алкаголю было супараўнальнае з сённяшнімі, рэкорднымі паводле сярэдніх сусветных, паказчыкамі Рэспублікі Беларусь (звыш 15 л спірту на душу насельніцтва ў 2010 г.). Але магчыма, што вельмі шмат гарэлкі спажывалася вайскоўцамі, якія часта праходзілі праз Скідзель, а ў вёсцы Глінянах стала функцыянаваў летні вайсковы лагер.

Складальнік інвентара 1845 г. адзначыў, што „сидельцы в питейных домах по деревням христиане, в самом местечке же Евреи". Праўда, у фінансавым дакуменце эканоміі за 1835 г. сцвярджалася, што ў Скідзелі прыватныя шынкі трымалі мяшчане-беларусы Гіляры і Якуб Чабатарэвічы, Ян Голуб, Лукаш Гарноўскі, Міхал Мазалеўскі, Ян Пучкоўскі, Язэп Халецкі, якія прадавалі гарэлку і піва з панскіх бровараў[134]. А млынаром тады быў жыд Рубін Іоселевіч, які плаціў эканоміі 333 злотых за арэнду млына. Складальнік інвентара 1845 г. таксама адзначаў, што некаторыя мясцовыя сяляне наймаюцца для сплаву тавараў па Нёмане да Кёнігсберга, за што зарабляюць па 12-14 руб., але эканомія на гэтыя грошы не прэтэндуе.

Апроч бровара ў маёнтку функцыянавалі вадзяны млын з двума коламі, завод рагатага быдла на 200 галоў, завод тонкарунных авечак на 1000 галоў, цагельня[135]. Апроч панчшыны тут часам ужывалася і вольнанаёмная праца. За адзін дзень такой працы плацілася 10 капеек пешаму работніку і 25 вупражнаму. Сярэднегадавы прыбытак маёнтка Скідзель у інвентары ацэньваўся сумай 11 562 руб. Земляробства давала 3052 руб. (26,4%), жывёлагадоўля — 200 руб. (1,7%), авечкагадоўля — 1000 (8,6%), продаж гарэлкі — 4160 руб. (36%), вінакурэнне — 3150 руб. (27%)[136]. Інвентар не тлумачыў, чым розніліся прыбыткі ад продажу піцця і вінакурэння. У кожным разе вытворчасць і продаж гарэлкі стала галоўнай крыніцай прыбыткаў для ўладальнікаў Скідзеля. І гэта была тыповая сітуацыя для тагачаснай Беларусі. А для беларускага сялянства яна мела фатальныя наступствы, паколькі вяла да яго матэрыяльнай, фізічнай і духоўнай дэградацыі. Гарэлка служыла не толькі крыніцай узбагачэння дзяржавы, але і зручным дапаможным сродкам кіравання ачмураным алкаголем прыгонным селянінам. Грашовыя ж выплаты сялян — 466,33 руб. — складалі ў 1845 г. толькі 4% ад прыбыткаў маёнтка Скідзель.

134 ГДГАМ, Аддзел рукапісаў і кнігазбораў, ф. 15123 (Архіў князёў Чацвярцінскіх).
135 НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 40 адв.
136 НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 93.

*Табліца 13*

**Павіннасці сялян маёнтка Скідзель паводле інвентара 1845 г.**

| Вёска | Колькасць двароў | Паншчыны з вёскі (дзён на тыдзень) | Чынш на год (у руб.) | Даніна | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | гускі | куры | яйкі |
| Скідзель | 46 | 46 | 69 | 4 ½ | 46 | 276 |
| Белякоўшчына | 40 | 120 | 18,60 | 4 | 40 | 240 |
| Гліняны | 55 | 165 | 174 | 5 ½ | 58 | 348 |
| Карашава | 26 | 78 | 12,09 | 2 ⅓ | 26 | 156 |
| Некрашы | 45 | 135 | 100,80 | 4 ¼ | 42 | 252 |
| Сухаўляны | 21 | 63 | 31,50 | 2 | 21 | 126 |
| Рыскі | 33 | 99 | 15,35 | 3 ⅓ | 33 | 198 |
| Хваты | 15 | 45 | 45 | 1 ½ | 15 | 90 |
| **Разам** | **281** | **751** | **466,34** | **25 ½** | **281** | **1686** |

**Крыніца:** НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 1-96. Інвентар маёнтка Скідзель за 1845 г.

У 1845 г. у маёнтку Скідзель налічваліся 281 сялянскі двор і 2159 душ насельніцтва. У параўнанні з 1792 г. колькасць жыхароў мястэчка і 7 вёсак вырасла на 35,9%. Палепшыўся трохі і стан забяспечанасці хатняй жывёлай (табліца 14). У сярэднім на адзін сялянскі двор цяпер прыходзілася 0,7 каня, 1,7 вала, 0,8 каровы, 0,7 цяляці, 1,9 авечкі і 1,6 свінні.

*Табліца 14*

**Забяспечанасць сялян вёсак Скідзельскай воласці працоўнай жывёлай у 1792 і 1845 гг.**

| Вёска | 1792 г. | | 1845 г. | | У 1845 г. адносна 1792 г. (у %) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Валы | Коні | Валы | Коні | Валы | Коні |
| Скідзель | 71 | 15 | 57 | 15 | 80,30 | 100,00 |
| Белякоўшчына | 49 | 9 | 80 | 28 | 163,30 | 311,00 |
| Гніляны | 78 | 30 | 94 | 73 | 120,50 | 243,30 |
| Карашава | 62 | 16 | 48 | 19 | 77,40 | 118,80 |
| Некрашы | 64 | 17 | 70 | 16 | 109,40 | 94,10 |
| Рыскі | 61 | 26 | 53 | 12 | 86,90 | 46,20 |
| Сухаўляны | 39 | 6 | 41 | 21 | 105,10 | 350,00 |
| Хваты | 27 | 5 | 30 | 9 | 111,10 | 180,00 |
| **Разам** | **451** | **124** | **473** | **193** | **104,80** | **155,60** |

**Крыніцы:** ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.); НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 1-96. Інвентар маёнтка Скідзель за 1845 г.

Але ў параўнанні з 1558 г. стан забяспечанасці сялян Скідзельшчыны цяглай працоўнай жывёлай усё ж заставаўся горшым. Параўнанне

дадзеных адносна 8 вёсак, якія ў 1558 і ў 1845 гг. належалі да Скідзеля, паказвае, што ў часы правядзення валочнай памеры ў гэтых вёсках колькасць коней была амаль на 20% большая, чым у 1845 г. (табліца 15). На падставе гэтага можна меркаваць, што ў цэлым стан сялянства за амаль трыста гадоў існавання фальваpачна-паншчыннай сістэмы не палепшыўся, а хутчэй за ўсё, толькі пагоршыўся.

*Табліца 15*

**Забяспечанасць сялян вёсак Скідзельскай воласці працоўнай жывёлай у 1558 і 1845 гг.**

| Вёска | 1558 г. | | 1845 г. | | У 1845 г. адносна 1558 г. (у %) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Валы | Коні | Валы | Коні | Валы | Коні |
| Белякоўшчына | 55 | 28 | 80 | 28 | 145,50 | 100,00 |
| Гліняны | 127 | 71 | 94 | 73 | 74,00 | 102,80 |
| Карашава | 8 | 11 | 48 | 19 | 600,00 | 172,70 |
| Некрашы | 45 | 25 | 70 | 16 | 155,6 | 64,00 |
| Русінаўцы | 65 | 27 | 43 | 17 | 66,20 | 63,00 |
| Рыскі | 57 | 32 | 53 | 12 | 93,00 | 37,50 |
| Сухаўляны | 69 | 39 | 41 | 21 | 59,40 | 53,80 |
| Хваты | 10 | 5 | 30 | 9 | 300,00 | 180,00 |
| **Разам** | **436** | **238** | **459** | **195** | **105,30** | **81,90** |

**Крыніцы:** ДГАЛ, ф. 11, воп. 1, спр. 1397, арк. 301-323 адв. (Інвентар Гарадзенскай каралеўскай эканоміі за 1792 г.); НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1267, арк. 1-96. Інвентар маёнтка Скідзель за 1845 г.

Павіннасці сялян маёнтка Скідзель ужо істотна не змяніліся да самой рэформы 1861 г. На самым пачатку працэсу рэалізацыі гэтай рэформы была складзеная Устаўная грамата, якая акрэслівала павіннасці сялян адносна ўладальнікаў і ўмовы іх выкупу. Азначаны дакумент таксама пераводзіў усе павіннасці на грошы, улічваючы пешую паншчыну па 9 капеек за дзень, а вупражную — па 15. За выключэннем жыхароў мястэчка Скідзель, якія павінны былі плаціць у сярэднім чынш 14,5 руб., сялянам вёсак маёнтка чынш быў у сярэднім вызначаны ў суме каля 30 руб. серабром за год. Выплачваць такія грошы для абсалютнай большасці сялян выглядала справай цалкам безнадзейнай, тым больш што да гэтага трэба было дадаць яшчэ і падушны дзяржаўны падатак. Таму рэформа ў рэчаіснасці амаль нічога не змяняла ў іх жыцці. Цяжка меркаваць, як бы разгортваліся падзеі далей, каб не паўстанне 1863 г., якое прымусіла расійскую ўладу радыкальна змяніць умовы правядзен-

ня рэформы ў Беларусі на карысць сялян. Але гэта ўжо тэма для іншага даследавання.

*Табліца 16*

**Павіннасці сялян маёнтка Скідзель у разліку на адзін двор паводле Устаўной граматы 1862 г.**

| Вёска | Колькасць двароў | Колькасць мужчынскіх вупражных дзён паншыны на адзін двор | Колькасць мужчынскіх пешых дзён паншыны на адзін двор | Колькасць жаночых дзён паншчыны на адзін двор | Чынш да 1861 г. у разліку на двор (у руб.) | Чынш паводле Устаўной граматы 1862 г. у разліку на двор (у руб.) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Скідзель | 48 | 40 | 26 | 20 | 1,5 | 14,5 |
| Гліняны | 58 | 140 | 20 | 20 | 3 | 31,60 |
| Карашава | 25 | 140 | 20 | 20 | 0,46 ½ | 29,06 ½ |
| Белякоўка | 38 | 140 | 20 | 20 | 0,46 ½ | 29,06 ½ |
| Хваты | 15 | 140 | 20 | 20 | 3 | 31,60 |
| Некрашы | 42 | 140 | 20 | 20 | 2,40 | 28,8 |
| Сухаўляны | 20 | 140 | 20 | 20 | 1,50 | 30,10 |
| Рыскі | 28 | 140 | 20 | 20 | 0,46 ½ | 29,06 ½ |

**Крыніца:** НГАБ у Гродне, ф. 10, воп. 17, спр. 599, арк. 9 адв. — 48 (Устаўная грамата маёнтка Скідзель за 1862 г.).

Як выглядалі павіннасці 1861 г. у параўнанні з ранейшымі часамі? Напрыклад, у вёсцы Некрашы сяляне павінны былі адпрацаваць з кожнага двара 160 мужчынскіх дзён (з іх 20 пешых) і 20 жаночых. У пераліку на грошы гэта складала 23,1 рубля з аднаго двара. Калі ж дадаць яшчэ чынш 2,40 руб., а таксама даніну і дадатковыя павіннасці, дык выходзіла на адзін двор 28,8 руб. Зямлі ў гэтай вёсцы на момант правядзення рэформы прыходзілася на адзін сялянскі двор 9 дз. 864 саж., ці прыкладна 0,5 валокі. Але ворыўнай зямлі на двор выходзіла прыкладна 0,36 валокі. Такім чынам, на адну ворную валоку прыходзілася прыкладна 2,75 двара, што складала 79,2 руб. пераведзеных на грошы павіннасцей. Чвэрць жыта ў 1862 г. у Скідзелі ў сярэднім каштавала 4,5 руб. Значыцца, для сялян вёскі Некрашы павіннасці з валокі ворнай зямлі складалі 17,6 чвэрці жыта, альбо 2095 кг. Але трэба ўлічваць ваганні коштаў збожжа. Напрыклад, у снежні 1864 г. чвэрць жыта ў Скідзелі каштавала 3,4 руб.[137] Пры такой цане, за 79,2 руб. можна было б прадаць 23,3 чвэрці жыта (2772 кг). Але ў кожным выпадку памеры

[137] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 4, спр. 237, арк. 1-2 (Ведомости о ценах в Гродненской губернии на декабрь 1864 г.).

павіннасцей на схіле прыгонніцка-паншчыннай сістэмы на Скідзельшчыне дасягнулі свайго максімуму. Прычым, у дадзеным выпадку мы не ўлічваем казённага падушнага падатку, які таксама гатоўкай выплачвалі сяляне.

На падставе аналізу дадзеных пра забяспечанасць жыхароў Скідзельшчыны працоўнай хатняй жывёлай можна вылучыць гіпотэзу, што ў гаспадарчым плане мясцовыя сяляне выразна дэградавалі за час існавання фальварачна-паншчыннай гаспадаркі. Таксама можна меркаваць, што колькасць насельніцтва на працягу гэтага перыяду не пераўзыходзіла паказчыка сярэдзіны XVI ст. Напэўна, ужо тады яна дасягнула аптымальнай велічыні для прыродных умоў дадзенага рэгіёна і існуючых земляробчых тэхналогій. Дэмаграфічная дынаміка залежала ад палітычных (войны, рэформы) фактараў, пра якія мы больш-менш ведаем, і, напэўна, ад прыродных фактараў (засухі, паводкі), пра якія ў дакументах згадак не засталося. Можна прыняць адну з галоўных тэзаў айчыннай гістарыяграфіі сялянства, што ўзровень эксплуатацыі сялян з боку феадальнай улады ўзрастаў. Але гэтая тэза патрабуе ўдакладнення. Спробы дворнай адміністрацыі павысіць сялянскія павіннасці адбываліся ў другой палове XVI — першай палове XVII стст., але сяляне, наколькі можна меркаваць на падставе дакументаў, маглі даволі паспяхова гэтаму супраціўляцца, таму ў дачыненні да Скідзельшчыны нельга, на нашу думку, гаварыць пра істотны рост павіннасцей у гэты перыяд. Пасля разбуральнай вайны з Маскоўскай дзяржавай каралеўская ўлада ў 1680 г. увогуле зліквідавала фальварачную гаспадарку ў сваіх эканоміях, перавёўшы амаль усе павіннасці сялян на чынш. Практычна цэлае стагоддзе жыхары Скідзельшчыны, як і сяляне ў тагачаснай Заходняй Еўропе, плацілі толькі грашовыя падаткі і былі вольныя ад паншчыны. На жаль, няма ў нашым распараджэнні дакументаў, на падставе якіх можна было б ацаніць эканамічны эфект ад пераводу з паншчыны на чынш. Зрэшты, калі ён і быў, дык, напэўна, нішчыўся войнамі і шляхецкімі разборкамі.

Кардынальны рост сялянскіх павіннасцей адбываецца ў 60-ыя гады XVIII ст. у выніку пераўтварэнняў літоўскага падскарбія Антонія Тызенгаўза, якому тады былі падпарадкаваныя і каралеўскія эканоміі. Дзяржаўная ўлада аказалася яшчэ дастаткова моцнай, каб прымусіць сялян адбываць гэтыя новыя павіннасці, але занадта слабой, каб абараніць свой суверэнітэт. Рэч Паспалітая неўзабаве знікае з палітычнай карты Еўропы, падзеленая магутнымі суседзямі. Скідзельскі ключ у 1795 г. стаў прыватнай уласнасцю князёў Чацвярцінскіх. Новыя ўладальнікі з часам здолелі яшчэ болей павысіць сялянскія павіннасці і, акрамя таго, адабралі ў сялян лепшыя землі для фальварка. Жыхары мястэчка страцілі свае старадаўнія мяшчанскія прывілеі. Гэта сталася

магчымым, дзякуючы падтрымцы ваенна-бюракратычнай машыны Расійскай імперыі, з дапамогай якой Чацвярцінскія задушылі супраціў сялян. Падобным чынам дзейнічалі ў першай палове XIX ст. і іншыя землеўладальнікі. З гэтага пункту гледжання хлуслівымі выглядаюць тэзы заходнерускай публіцыстыкі пра прыгнёт беларускіх сялян польскімі панамі. Гэты прыгнёт дасягнуў свайго апагею якраз у часы расійскага імперскага панавання. Апагею дасягнула і развіццё фальварачна-паншчыннай гаспадаркі, адваротным бокам якога была сапраўды трагічная галеча сялян, якія ў 1845 г. выглядаюць бяднейшымі, чым у 1558 г., хаця ў параўнанні з канцом XVIII ст. іх маёмасны стан трохі паправіўся, нягледзячы на павышэнне павіннасцей.

Асабліва істотным нам уяўляецца той факт, што ў мясцовым грамадстве ў XVIII — першай палове XIX стст. знікае сацыяльная група заможных сялян, якая адыгрывала істотную ролю ў мясцовым жыцці ў XVI — першай палове XVII стст. У 1650 г. войт Павел Казейка фундаваў будаўніцтва местачковай царквы, а ў XIX ст. сяляне ўсім прыходам не былі ў стане гэтую царкву нават падрамантаваць без дапамогі пана. Адсутнасць гэтай групы „моцных” гаспадароў значна аслабляла, на нашу думку, сялянскую супольнасць. Многія іх функцыі ў жыцці лакальнай супольнасці перанялі жыды, якія паступова занялі пазіцыі арандатараў, карчмароў, млынароў і г.д. Паражэнне мясцовых беларускіх гандляроў і рамеснікаў у канкурэнтнай барацьбе з жыдамі, напэўна, можна патлумачыць тым, што яны адначасова з гандлем і рамёствамі працягвалі займацца і сельскай гаспадаркай. Былі, калі можна так сказаць, „аматарамі” ў параўнанні з шматпакаленнымі гараджанамі-жыдамі, да таго ж значна мацней згуртаванымі і больш камплiментарнымі паміж сабой.

Такім чынам, мясцовая супольнасць скідзельскіх беларусаў жыла ў сваім асаблівым гістарычным часе, які плыў значна марудней, чым той час, паводле якога жылі, напрыклад, шляхецкія эліты. У гэтым лакальным свеце на працягу трох стагоддзяў мала што змянялася, а, калі змянялася, дык, хутчэй, у горшы бок. Несумненна, што павялічвалася сацыяльная і культурная дыстанцыя паміж сялянствам і шляхтай, узрастала ўлада апошняй над прыгоннымі, часта набываючы выродлівыя для тагачаснай Еўропы формы. Зрэшты, якраз жыхары Скідзельшчыны спазналі гэта ў меншай ступені, бо з’яўляліся вельмі доўгі час гаспадарскімі ці дзяржаўнымі сялянамі. Беларуская шляхта ставала ўсё болей адукаванай, чытала разумныя кніжкі на замежных мовах і рабіла поспехі ў розных навуках, разважала пра шляхецкія вольнасці і нават некаторая яе частка падумвала пра эмансіпацыю сялян, на якіх ужо паглядала як еўрапейскія каланісты на дзіўнаватых туземцаў. Але да вёскі гэтыя інтэлектуальныя дасягненні амаль не даходзілі. А рэаль-

ныя спробы рэформаў часам станавіліся для сялян сапраўднай катастрофай, як гэта адбылося з пераўтварэннямі Антонія Тызегнаўза. Магчыма, падобная сітуацыя і сталася адной з галоўных прычын таго прыкрага факту, што Рэч Паспалітая аказалася не ў стане супрацьстаяць сваім агрэсіўным суседзям. Што ж датычыцца пытання пра тое, ці захаваліся сляды эпохі паншчыны ў ментальнасці сучасных беларусаў, дык, напэўна, немагчыма даследаваць гэтага дакладнымі навуковымі метадамі, хаця, як сцвердзіла польскі сацыёлаг І. Букраба-Рыльска, многія негатыўныя рысы нашых сучаснікаў можна было б патлумачыць з дапамогай такога дапушчэння.

**Streszczenie**

Celem niniejszego artykułu jest określenie kierunku i tempa zmian w wielkości i strukturze powinności chłopskich w ramach systemu pańszczyźnianego na przykładzie klucza Skidel w powiecie grodzieńskim. Gospodarka folwarczno-pańszczyźniana powstała w badanym regionie w XVI w. Od tego czasu trwała walka miejscowej ludności chłopskiej przeciwko podwyższaniu świadczeń na rzecz dworu. Po niszczycielskiej wojnie w połowie XVII w. chłopi zostali zwolnieni z pańszczyzny i zostawieni tylko na czynszu. Ale sto lat później podskarbi litewski Antoni Tyzenhauz przeprowadził w ekonomiach królewskich reformę, na mocy której ludność chłopska ponownie została obciążona pańszczyzną. Od tego momentu powinności chłopskie rosły do samej reformy uwłaszczeniowej w 1863 r. Spowodowało to degradację ekonomiczną ludności chłopskiej, której poziom życia wyglądał znacznie gorzej niż w połowie XVI w.

**Summary**

This article aims to determine a direction and pace of changes in the scale and structure of peasant obligations within the serfdom system as exemplified by Skidel in the Hrodna Poviat. The grange and serfdom economy originated in the researched region in the 16th century. Since then, local peasants were fighting against the increase of their obligations in favor of the court. After a destructive war in the middle of the 17th century, the peasants were exempted from serfdom and only had to pay rent. However, a hundred years later, a Lithuanian treasurer Antoni Tyzenhauz, introduced a reform in royal economies, under which peasants were burdened with serfdom again. Since then, peasants obligations were growing until the enfranchisement reform of 1863. It caused peasants economic degradation whose living standards were much worse than in the middle of the 16th century.

**Siarhiej Tokć** — prof. dr hab., pracuje w Państwowym Uniwersytecie im. Janki Kupały w Grodnie, zajmuje się historią wsi białoruskiej i procesami narodowościowymi w XIX-XX wieku.